# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 34 (296) 30 жніўня — 5 верасня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





# РАРЫТЭТЫ І ПАРЫТЭТЫ

Дастаткова часта чуем мы ў побыце фразу — "Чалавек ад зямлі". І нам зразумела, што таму чалавеку высокія матэрыі ў снах мусіць, не мрояцца. Клопатаў у яго — ад відна да відна: накарміць сябе, накарміць дзяржаву.

Урэшце, рэаліі вясковых матываў наўрад ці падпадаюць пад пафасны стыль сказа, напісанага ў гарадскім кабінеце. Яны, гэтыя рэаліі, прымушаюць задумацца вось над чым.

Часам той-сёй лямантуе, маўляў, згубіла вёска духоўнасць... забылася на свае вытокі... фальклор... і трэба тэрмінова вяртаць усё на месца. Прабачце, але як? Наўрад ці магчыма адраджаць або захоўваць што б там ні было, калі не будзе натуральнага звёна ў ланцужку: каму перадаваць спадчыну. Вясковая моладзь сёння, пакідаючы бацькоўскія гнёзды, пераемнікам традыцый ніякім чынам не будзе. Не скажа вясковая дзяўчына, ператварыўшыся ў гараджанку, бабульчынай мовай: "Вой, як хочацца "Галкі..." праспяваць, бо ўжо час, восень надышла". Ды наўрад ці даведаецца яна і пра тое, што песня гэтая старажытная рэкруцкая.

Дык што можна зрабіць, каб не пакідала зямлю мудрасць народа?

Захаваць чыста вясковыя традыцыі ў асіміляваным асяродку, выбачайце, сёння практычна немагчыма. Культурны пласт аўтэнтыкі ў пэўных мясцінах знішчаны часам, бо калісьці мы не парупіліся. Так, можа дзесьці штосьці і захавалася, але праблему паратунку народнай культуры скідваць толькі на культработнікаў бессэнсоўна. На справу захавання фальклору павінны цяпер працаваць перш за ўсё спецыялісты-навукоўцы. Каб занатоўваліся ўзоры нацыянальнай спадчыны, якія паступова становяцца рарытэтамі, своеасаблівым антыкварыятам. На жаль. Але ж тады ўжо на гэтым фундаменце можна будзе весці гаворку аб стварэнні нейкага культурна-фальклорнага запаведніка, дзе не будзе радыё і тэлебачання. Але ці знойдуцца дабравольцы на гэткае пасяленне?

Ды ўвогуле, ці маем мы права пазбаўляць вяскоўцаў тых выгодаў, якія дала нам цывілізацыя? Чаму вясковая моладзь не павінна ведаць, што такое дыскатэка або ролікі прынамсі? Ахвяраваць сусветным прагрэсам на карысць этнаграфічнай рэзервацыі могуць толькі апантаныя. А па вялікім рахунку побач са старажытнай кузняй або ганчарным колам у вёсцы павінны стаяць сёння камп'ютэры. Вось тады мы не будзем хвалявацца за культурны лад жыцця гэтых вяскоўцаў, бо яны не будуць сябе адчуваць рабінзонамі з "лямпачкай Ільіча".

І вёску дзяржава павінна зрабіць інтэлектуальнай. У XXI стагоддзі не што іншае, як інтэлект, будзе фармаваць вобраз і сутнасць беларускай вёскі.

*(Працяг тэмы — на стар. 2 — 3).*



К КУЛЬТУРА
ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ

Рэпарцёрскі марафон

**Нядаўна ў рэдакцыю нашай газеты прыйшоў ліст, які ўздымае адразу некалькі праблем, звязаных са станам культуры ў беларускай глыбінцы. Ніжэй мы змяшчаем яго.**

*Добры дзень, шаноўныя супрацоўнікі штотыднёвіка "Культура"!*

*Піша Вам загадчыца сельскага клуба вёскі Вялікія Лаўчынскія Браслаўскага раёна Галіна БРАЗЮЛЬ.*

*Чытаю Вашую газету з першых дзён яе выхаду ў свет. Шчыра радуюся, калі знаходжу матэрыялы пра работу сельскіх Дамоў культуры. Засмучае толькі, што вельмі мала гэткай інфармацыі. Асабліва калі ўлічыць, колькі нас у рэспубліцы, у кожным раёне прыкладна 40 — 60 сельскіх клубаў і ДК. А мы ж "варымся ва ўласным соку", пасля таго як пазбавіліся магчымасці атрымліваць перыёдыку з Расіі. Тыя, хто даўно працуе ў культуры, памятаюць і захоўваюць брашуры з серыі "В помощь клубному работнику" і інш., памятаюць часопісы "Клуб", "Молодёжная эстрада". Цяпер мы не маем гэтай інфармацыі. І хаця ў нашым раёне ёсць метадычны цэнтр, дзе працуюць творчыя, дасведчаныя спецыялісты, але пэўная інфармацыя звонку была б карыснай. Штотыднёвік "Культура" мог бы выдзеліць хаця б разварот, дзе друкаваліся б сцэнарыі, дакументы, якія датычацца арганізацыі клубнай дзейнасці, аплаты і матэрыяльнага забеспячэння працы, метадычныя парады. Ад гэтага была б вялікая карысць нам, шараговым супрацоўнікам культуры. А праблемаў і складанасцяў у нас не меней, чым у супрацоўнікаў іншых галін. А гэтак многа цікавага, вартага таго, каб аб гэтым даведаліся калегі. Гэтага ўсяго хапіла б нават на цэлую газету. А для пачатку можна было б паспрабаваць выдзеліць хаця б старонку, дзве. А якія конкурсы можна было б арганізаваць на старонках Вашай газеты! І галоўнае, ад гэтага будзе вялікая карысць.*

*Я думаю, мяне падтрымаюць мае калегі.*

*А яшчэ я дасылаю Вам свой сцэнарый каравайнага абрада, які распрацаваны на аснове як мясцовага матэрыялу, так і звычаяў беларусаў Паазер'я. Мне падабаецца пісаць сцэнарыі масавых мерапрыемстваў. І амаль усе мерапрыемствы, якія праводзяцца ў нас у клубе, пастаўленыя па маіх сцэнарыях, імі таксама карыстаюцца мае знаёмыя "клубнікі". Калі Вас зацікавіць мой сцэнарый, мы можам супрацоўнічаць. Але мне вельмі хацелася б часцей бачыць на старонках Вашай газеты сцэнарыі і якія-небудзь метадычныя парады па правядзенні масавых мерапрыемстваў. У нашай рэспубліцы няма ніводнага друкаванага органа, дзе можна было б прачытаць аб гэтым. Безумоўна, сцэнарыі часта друкуюцца ў педагагічных выданнях, такіх як "Пачатковая школа", "Пралеска", "Роднае слова", але пішуць іх педагогі, людзі, якія не маюць спецыяльнай адукацыі, а ў нас так многа людзей з рэжысёрскай адукацыяй.*

*Я спадзяюся, што неўзабаве Ваша газета зробіцца настольнай для многіх работнікаў культуры.*

*З павагай Г.В.Бразюль.*

# ПРА ВЯСКОВЫЯ КЛУБЫ, СЦЭНАРЫІ І КАМП'ЮТЭРЫ

З гэтым лістом мы звярнуліся да загадчыцы лабараторыі вольнага часу Беларускага інстытута праблем культуры **Любові Сівуравай.**

— Тэма, якую закранула спадарыня Галіна, — вельмі актуальная. Па статыстыцы ў нас платных супрацоўнікаў клубных устаноў каля дзесяці тысяч. Так што ў яе шмат аднадумцаў і ўсе яны кажуць прыкладна адно і тое ж. Сапраўды, няма спецыяльнага выдання, якое б асвятляла пытанні работы клубаў. Наогул інфармацыйна-метадычнае забеспячэнне амаль на нулі. Гэтая праблема востра стаіць на працягу ўсіх 90-х гадоў, з таго часу як быў расфарміраваны РНМЦ — Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр. У ім працавала каля 100 чалавек, якія займаліся толькі праблемамі аматарскай творчасці. Там былі напрацоўкі, і за 8 гадоў з 1980 па 1988 гг. было выдадзена каля 200 кніг і брашур толькі для клубных устаноў. Сярод іх былі: рэпертуарныя зборнікі, зборнікі па народных промыслах і рамёствах, па выхаваўчай рабоце з калектывамі і г.д.

**— Скажыце, а гэтыя кніжкі зараз можна знайсці ў клубах?**

— Метадычныя цэнтры працавалі ў тыя часы пры раённых Дамах культуры, а потым былі рэарганізаваны ў самастойную структуру, дык вось, там, дзе заставаліся разумныя людзі, якія не разбуралі сцэнарны і метадычны фонд, то да гэтага часу гэтым фондам карыстаюцца. Я прыязджаю, кажуць: у нас адна кніжка на раён і мы яе беражэм. Пытаюцца, ці можна яе перавыдаць. Трэба гэтым займацца? Абавязкова.

**— А што робіце вы цяпер у гэтым накірунку?**

— Калі РНМЦ не стала, то ў нас захаваўся маленькі аддзел народнай творчасці, ён гэтак называецца ў нашым інстытуце, дзейнічаюць дзве лабараторыі: адна займаецца традыцыйнай культурай, другая — аматарскай творчасцю. Ведаеце, назва маёй лабараторыі не вельмі адпавядае зместу — "лабараторыя праблем і арганізацыі вольнага часу". Насамрэч гэта лабараторыя культурна-дасугавай дзейнасці, але чамусьці слова "дасуг", наш прафесійны тэрмін, не мае адпаведніка ў беларускай мове. "Вольны час" — гэта час, які не заняты працоўнай дзейнасцю і сном, а "дасуг" — гэта час дзейнасці для самаўдасканалення, самаразвіцця. Трэба тэрмін шукаць. Цікава, што па-беларуску кажуць "дасужы чалавек" — той, хто чымсьці вельмі цікавіцца, а вось "дасуга" няма. Дык вось, у маёй лабараторыі працуе ўсяго толькі пяць метадыстаў, якія займаюцца па жанрах народнай творчасці: харэаграфічным, інструментальным, тэатральным, харавым і гульнёва-забаўляльнай дзейнасцю. Усяго толькі пяць чалавек, якія засталіся з тых ста. І разумееце, наколькі цяжка ўсё гэта ахапіць. Ці мы можам спраўляцца з тым аб'ёмам працы, які раней быў? Безумоўна, не. Тым больш амаль няма фінансавання. Раней на выданне літаратуры выдзяляліся грошы, і яна выдавалася. За час ад стварэння інстытута з 1991 года былі выпушчаны некалькі рэпертуарных зборнікаў. Мы падрыхтавалі спіс літаратуры, якая маецца ў нас, і разаслалі яго па раёнах у аддзелы культуры, у абласныя ўпраўленні культуры. На які-небудзь семінар прыязджаем, таксама прапагандуем нашу літаратуру, паказваем, расказваем.

**— Яшчэ ўвесну я чуў, што ў вашым інстытуце будзе выходзіць часопіс "Народная творчасць", калі ўжо ён убачыць свет?**

— Падрыхтаваны ўжо арыгінал-макет. Зрабілі апытанне па рэспубліцы, і ёсць вялікая цікавасць да яго, амаль дзве тысячы заявак ад людзей, якія купяць. Мы зрабілі ўсё, што ад нас залежыць. Але арыгінал-макет ляжыць, таму што няма грошай. Застаецца толькі спадзявацца, што часопіс будзе, будзе ў яго штат. Але любая ініцыятыва з часам згасае. У гэтых умовах, калі няма рэспубліканскага цэнтра, шмат што робіцца абласнымі навукова-метадычнымі цэнтрамі. На працягу трох гадоў у Магілёве выходзіць часопіс "Клуб і народная творчасць". Там цікавыя рубрыкі, падаецца ўся інфармацыя па іх вобласці, ён добра распаўсюджваецца і ўстановы культуры ім вельмі задаволеныя. Але ж ён выпускаецца сваімі сіламі на адным старым камп'ютэры "Рабатрон", а трымаецца ўся гэтая справа дзякуючы намаганням ініцыятыўнага галоўнага бібліёграфа цэнтра Святланы Буфель.

**— Скажыце, дзе могуць быць разгледжаны і апублікаваныя сцэнарыі, якія прапануюць клубныя супрацоўнікі?**

— У нас узнікла ідэя зрабіць рэспубліканскі абменны сцэнарны фонд. Мы папрасілі даслаць нам самыя цікавыя сцэнарыі, якія былі зроблены метадычнымі работнікамі, работнікамі клубаў. Ужо маем больш за сто сцэнарыяў розных накірункаў дзейнасці. Адно непакоіць, што ў нас мала капіравальнай тэхнікі.

**— Але да вас ужо можна звяртацца?**

— Так. Будзе стаяць камп'ютэр, дзе будзе змешчаны спіс сцэнарыяў, пакуль гэта толькі пачатак. Пасля на аснове тых сцэнарыяў можна будзе выдаць зборнікі, распаўсюдзіць іх. Некаторыя, калі ўсё ж часопіс выйдзе, будзем друкаваць у ім.

**— Што запланавана выдаць у гэтым годзе?**

— Сёлета ўжо здадзены ў выдавецтва "Зборнік гульнёва-забаўляльных праграм пераможцаў рэспубліканскага конкурсу культарганізатараў-96", напрыканцы гэтага года ён выйдзе. Яшчэ ў плане кніга Клаўдзіі Лабчэўскай "Гульні славян". Набраны ўжо рэпертуарны зборнік для самадзейных харавых калектываў з народнай манерай выканання пад рэдакцыяй Мікалая Сіраты. Усю літаратуру можна заказаць у нас па тэлефоне.

**— Раскажыце пра працу вашай лабараторыі.**

— У гэтым годзе мы спрабуем сабраць даведнік па калектывах аматарскай і мастацкай творчасці са званнямі "Народны" і "Узорны". Цікавы факт, што ўсіх калектываў розных жанраў 2361. Уяўляеце, якая гэта махіна! А гэта толькі тыя, якія маюць званні, самыя лепшыя, а колькі калектываў без званняў! Яшчэ ў гэтым годзе мы распрацавалі палажэнне "Аб калектывах народнай творчасці", яно разасланае зараз па абласцях, ёсць ужо водгукі. Гэта таксама вельмі актуальная праблема, бо нарматыўная база вельмі і вельмі старая. Яшчэ лічацца дзейнымі дакументы 70-х і нават 60-х гадоў. Нашае даследаванне паказала, што трэба абнавіць палажэнне "Аб службовых абавязках", статуты цэнтраў. Шмат чаго трэба перапрацоўваць. Работы нам хапае на ўсіх франтах. Увосені з 22-27 верасня пад эгідай міжнароднай арганізацыі IOV, якая займаецца народнай творчасцю, будзем праводзіць міжнародную канферэнцыю "Традыцыйная культура ва ўмовах сучасных перамен". Прыедуць навукоўцы з Грэцыі, Партугаліі, Нямеччыны, Малдовы, Украіны і інш. Па навукова-даследчай працы вядзем распрацоўку тэарэтычнай тэмы "Фестывальны рух народнай творчасці ў пасляваенны час". Раней фестывальная дзейнасць у нас не даследавалася — не лічылася культурнай каштоўнасцю тое, што людзі збіраліся, спявалі, а цяпер канец стагоддзя, трэба нейкія падвесці вынікі. І галоўнае — на гэтае даследаванне Савет Міністраў выдзяліў колькі грошай. У нашых спецыялістаў вельмі многа выездаў у раёны, у вобласці, там праводзяцца семінары. І вельмі сорамна, што часта няма ў нас грошай на дарогу. Інстытут не мае сродкаў на камандзіроўкі, так што ездзім за кошт людзей, якія нас запрашаюць, а самі мы не ў стане планаваць даследчую працу на перыферыі.

**— Што вы можаце пажадаць і параіць клубным работнікам?**

— Мяне вельмі турбуе стан інфармацыйна-метадычнай сістэмы клубаў, таму хачу параіць клубам замест аднаго раённага свята купіць добры камп'ютэр, бо зараз лічыцца няблага, калі ў клубах маецца хоць адна друкарская машынка. А камп'ютэр дазволіць назапашваць сцэнарны матэрыял і замяніць тыя груваcткія картатэкі, якія ад рукі пішуцца. Таксама можна зрабіць кам-




***Каб зразумець вясковы лад жыцця, трэба хоць на пэўны час акунуцца ў сельскую глыбінку. Таму ў адну з пятніц я выправіўся ў Лагойскі раён, у вёску Швабы да Міколы Захаранкі. Да чалавека, п'есы якога ставіліся ў Купалаўскім тэатры. Таму мне было цікава пачуць ягонае меркаванне наконт культуры.***

**— Спадар Мікола, што вы можаце сказаць пра сённяшнюю вясковую інтэлігенцыю і ці ёсць яна?**

— Калі мець на ўвазе тых, хто паляпшае эманацыю духоўнасці, дык у гэтым сэнсе інтэлігенцыя на вёсцы ёсць. У любым мястэчку, нават у самым глухім, можна адшукаць гэткіх людзей. Калі мець на ўвазе ў сацыяльна-бытавым плане — лекары, настаўнікі, усялякія спецыялісты, — з гэтымі таксама нібыта не ўсё блага. А калі казаць пра інтэлігенцыю народную... дык яна дажывае апошнія гады. Вясковая культура гіне разам з носьбітамі гэтай культуры. Людзі старэюць, паміраюць. На жаль, пакаленне, што прыходзіць ім на змену, не імкнецца захаваць добрыя фальклорныя традыцыі свайго асяродку. На вёску наваліўся дрэнны сацыяльна-грамадскі ўплыў. Вёска разбураецца маральна і сацыяльна; да таго ж яна співаецца.

**— А хто яны, гэтыя апошнікі вясковай культуры?**

— Звычайныя бабулькі-пенсіянеркі, калгасніцы. Іх засталася жменька. Як ладзіцца нейкі прагляд, дык бягуць адразу да іх. Гэтак званая культура і культураўцы не могуць без гэтых шматпакутных жанок. Я называю "гэтак званай культурай" антыкультуру. Калі робяцца нейкія фэсты, як нейкі фетыш, вязуць выступаць старых, хворых людзей. І невядома, ці здолеюць праз месяц тыя бабулькі паехаць і зноў праспяваць. Яны не функцыянуюць у грамадстве ўжо як актыўныя адзінкі. А што датычыцца носьбітаў традыцыйных народных рамёстваў, дык такіх амаль няма. Хаця на традыцыйныя рамёствы сёння мода ў культурніцка-асветніцкай плыні. На жаль, я не бачу ніякіх традыцый з даўніны. Ёсць толькі калгас і савецкі лад жыцця.

**— А як з бібліятэкамі на вёсках?**

— Людзі туды ходзяць вельмі рэдка. Няшчасным бібліятэкарам даводзіцца прыпісваць наведнікаў, таму што раённыя аддзелы культуры патрабуюць ад іх планы і справаздачы з адпаведнымі лічбамі — колькі кнігавыдач? Таму бібліятэкары вымушаны хлусіць, бо зацягнуць людзей да кнігі гвалтам яны не могуць. І так, мусіць, па ўсёй краіне.

**— Ці ёсць выйсце з дадзенай сітуацыі?**

— Даць рэцэпт выйсця вельмі цяжка. Мы можам толькі па-філасофску спадзявацца на лепшае будучае, на тое, што наш народ не загіне. Тады і культура застанецца. Толькі гэтак я магу сказаць нешта пра выйсце. Аднойчы Галіна Каржанеўская выказалася ў газеце "Літаратура і мастацтва": "Рэлігія — найвышэйшая праява культуры, сфера трансцэндэнтнасці чалавечага духу, усё іншае — ніжэй". Дык вось, калі я казаў, што выйсце прыйдзе само сабой, я меў на ўвазе, што нам дапаможа Бог. А ўсе сацыяльна-культурныя намаганні, якія ідуць ад інстытутаў, ад усялякіх культмасавых утварэнняў, — штучныя і няшчырыя... Як на маё разуменне, дык вясковыя клубы, вясковая самадзейнасць — гэта хутчэй праява антыкультуры.

**— Я мушу не пагадзіцца з вамі, хаця, магчыма, вы ў нечым і маеце рацыю. Але ўсё ж гэта вельмі жорсткі падыход. Да прыкладу, Другі ўсебеларускі фестываль гумару, што праходзіў у вёсках Вялікія і Малыя Аўцюкі, я б не назваў антыкультурай.**

— Я настойваю на сваім катэгарычным сцвярджэнні.

п'ютэрную сетку, абменьвацца метадычнай інфармацыяй. Узнікне пытанне, штосьці трэба замовіць — калі ласка, сёння будзе запыт, заўтра — адказ. Тым больш, што вядома, якія вялікія грошы ідуць на мерапрыемствы, а каб хтосьці падумаў, разважыў, адно свята прапусціў, затое іншыя святы былі б на больш высокім узроўні.

**— І апошняе, пракаментуйце, калі ласка, прапанову нашай чытачкі Галіны Базюль, наконт друкавання сцэнарыяў на старонках нашай газеты.**

— На гэты конт у нас катэгарычная пазіцыя — ні ў якім разе нельга распаўсюджваць абрадавыя сцэнары, сцэнары традыцыйных свят, бо можна нарабіць вялікую шкоду. І падобную шкоду аднойчы, няўзнак, зрабіла сама я. Калісьці на Брэстчыне я паказала сцэнары з Глыбоцкага раёна. А потым запрашаюць мяне ў Івацэвічы, і адбываецца нешта цяжказразумелае — праводзяць Юр'ю паводле сцэнарыя Глыбоччыны. Дзеецца і спяваецца тое, што зусім не характэрна для гэтага рэгіёна. Але ж павінна падтрымлівацца і захоўвацца толькі тая традыцыя, якая бытавала на дадзеным канкрэтным месцы. А ў нас робіцца так, што надрукавана — тое правільна, тое можна, тое лягчэй, а сваё — ужо не гэтак, памылковае, дый і цяжэй занатаваць, прасачыць, напісаць самому. Так што друкаваць падобныя сцэнарыі можна з каментарыямі спецыялістаў і толькі ў навуковых выданнях.

**— Дзякуй за размову. Поспехаў.**

**Вёў гутарку Серж МІНСКЕВІЧ**

***P.S.: Шаноўныя супрацоўнікі клубаў і Дамоў культуры, газета “Культура” заўсёды рада апублікаваць вашыя артыкулы пра надзённыя праблемы, пра вашае творчае жыццё, але ж свае сцэнарыі накіроўвайце спецыялістам — у вашыя раённыя метадычныя цэнтры, альбо ў Беларускі інстытут праблем культуры на адрас: 220086, г.Мінск, БелІПК, тэл. 264-17-33.***



Не жадаю ніякай двуістасці. Я хачу яснымі вачыма глядзець на стан нашай культуры і духоўнасці. Праз дарогу ад Швабскага сельскага Дома культуры ўжо трэці год будуецца маленькая драўляная царква — няма сродкаў. І мясцовыя людзі не дапамагаюць. Між іншым... праз дарогу — Дом культуры!.. Але якія адносіны мае да культуры гэты дом? Калі ён нават не ведае, што адбываецца ля ўласных сцэнаў? Самыя горшыя здарэнні на вёсцы адбываюцца ў клубе ці непадалёку ад яго... Што датычыцца Аўцюкоўскага фестывалю, дык я родам адтуль — я нарадзіўся за 28 кіламетраў ад Аўцюкоў. Фестываль той — гэта добрая, цудоўная справа, якая, на жаль, робіцца не зусім правільна. Сабраліся людзі, павесяліліся, параскаэвалі анекдотаў з барадой, часам досыць прымітыўных. Ну, пагумарылі, пачудзілі. Прыехалі з Калінкавіцкага Дома культуры народныя, гэтак званыя, фальклорныя ансамблі, якія праспявалі рускія народныя песні. Гэта добры фэст, але ж трэба імкнуцца да культуры беларускага народа.

Улады ў вёсцы Швабы плоцяць грошы тром чалавекам, уся праца якіх — гэта арганізацыя танцаў па суботах ды нядзелях і калгасных сходаў. Дарэчы, і я некалі працаваў у нашым клубе. І таксама атрымліваў грошы. Але, праўда, я імкнуўся кіраваць калектывам, а калі ён развaліўся не без дапамогі гэтых самых культпрацаўнікоў, я з клуба сышоў.

**— Дык усё ж: ці патрэбны сёння на вёсцы Дамы культуры?**

— Гэта пытанне рытарычнае. Безумоўна, патрэбныя. Справа ў тым, у якім выглядзе, у якой форме і з якім зместам яны павінны існаваць. Чаму я ўвесь час кажу пра антыкультуру? На вёсцы патрэбны ўстановы натуральнай куль-ту-ры. Рэлігія і фальклор — вось тыя дзве планкі па якіх мы можам вымяраць узровень свайго культурнага жыцця.

Культурнае жыццё на вёсцы, у глыбінцы гіне не толькі з-за няўклюднай фінансавай палітыкі дзяржавы ў адносінах да гэтай культуры, а яшчэ з-за сямідзесяцігадовай савецка-бальшавіцкай традыцыі. Не трэба забывацца на гісторыю ўзнікнення многіх Дамоў культуры. Яны ўзнікалі як альтэрнатыва царкве. Цікава было б паглядзець статыстыку — колькі дамоў культуры пабудавана на разбураных цэрквах. Тут я бачу сакральны сэнс. Гэта не выпадкова. Між тым, культурна-асветніцкія традыцыі ні наколечкі не змяніліся — звычайныя савецкія.

**— Было б добра, калі б на вёску часцей прыязджалі пісьменнікі, мастакі, музыкі?**

— На вёсцы патрэбны інтэлігентныя адукаваныя людзі. Ні адзін настаўнік у нашай школе не выпісвае і нават не чуў пра такія выданні, як “Літаратура і мастацтва” і “Культура”. Гэта ўжо пра нешта кажа. Я ўжо маўчу пра культпрацаўнікоў... На вёсцы сапраўды патрэбны інтэлігентныя людзі, якія маглі б супрацьстаяць антыкультуры.

**Зміцер ВОЛКАЎ, наш спецкарэспандэнт**

# КАМУ ПАТРЭБНЫЯ МУЛЯЖЫ?

*“Давайте говорить друг другу комплименты...”, — заклікаў паэт. Дык давайце. Вельмі хочацца. Пасля кожнай выставы —толькі кампліменты. Пасля кожнага спектакля — толькі кампліменты. Пасля кожнага фільма — не палохаючыся красамоўных словаў...*

Мы пакутуем шмат ад чаго. Ад зласлівасці ў тым ліку. Ад вострай недастатковасці сардэчнасці, што вядзе да вострай сардэчнай недастатковасці. Статыстыка якой у нас сумная.

Як бы яе не памнажаць?

Кожнаму з нас...

І мне — мастацкаму крытыку, які паводле сваёй дзейнасці мае стасункі з самым неабароненым і крохкім: мастаком і ягоным творам. Але што ж паробіш, калі твор у мастака, так бы мовіць, не зусім удалы? І калі іншаму мастаку ён таксама “не вельмі”? І калі прычына няўдач, відавочна, агульная? Ёсць такая формула: “маўчанне таксама крытыка”. У гарачы час яна асабліва актуальная. Пра няўдачу лепей прамаўчаць. Але як быць з прычынай, што становіцца ўжо тэндэнцыяй? “Сёння не скажаш, заўтра ўжо не паправіць”. Гэта — з іншага паэта.

А заўтра, баюся, сапраўды ўжо не паправіць. Таму, на маю думку, самае страшнае для нас сёння — не эканамічныя катаклізмы, якімі б сур'ёзнымі тыя ні былі, і не разгул мафіі, вельмі арганізаванай і ўзброенай, а рэальная пагроза замены дэмакратыі ахлакратыяй, гэта значыць, улады народа — уладай натоўпу. Натоўпу, які шалёна знішчае на сваім шляху ўсё і ўсіх. Які ў стане эйфарыі пойдзе за любымі лозунгамі і пад любымі сцягамі. Ахіне адзінадушшам, як ахінала рэпрэсіі трыццатых, як цкавала Ахматаву, Зошчанку, Салжаніцына, Растраповіча, Сахарава... Мы і сёння назіраем страшныя ўсплёскі гэтага адзінадушша: дзесьці яшчэ ў гарачыні мытынгаў, дзесьці — ужо ў разні...

Назіраем. Страшна...

Але пры чым тут мастацтва, скажаце вы? Ведаеце, мастацтва можа весці за сабой, а можа ісці на повадзе. Сёння часцей адбываецца апошняе. Гледачы адвярнуліся ад выставачных залаў — да больш вострых відовішчаў. Альбо зусім без відовішчаў: з прычыны пачуцця самазахавання і палохаючыся новых перагрузак. Наогул, фармальна яны, выставы, дзейнічаюць — але без гледачоў. Панылая карціна — пустыя залы, самотныя наведнікі, назіральнікі, якія спяць...

Але які вынік можа мець імкненне прывабіць публіку да выставы любым спосабам, дагадзіць ёй любым чынам? Бясплатным шампанскім? Бясплатнымі каляровымі каталогамі з аўтографамі мастакоў? Шоу-прадстаўленнямі ў дзень адкрыцця экспазіцыі з удзелам прывабных дзяўчат? Скандальнымі экспанатамі-інсталяцыямі, дзе няма і намёку на мастацкі густ?

Карацей, вынік тужлівы. Ахлакратызацыя мастацтва. Калі попыт натоўпу абцяжарвае мастака, апошні губляе свой твар. І тады адны і тыя самыя метады выкарыстоўваюць мастакі розных школ, пакаленняў, нават талентаў. Не таму што пазычаюць адзін у аднаго, а таму, што дагадзіць натоўпу. І губляюць свой мастакоўскі густ, падпарадкоўваючыся густам натоўпу альбо, што не менш істотна, патэнцыйным пакупнікам-замоўцам мастацтва. А адсутнасць густу ёсць безгустоўшчына. Безгустоўшчына.

Калісьці над мастацтвам вісеў грыф “не дазволена”. Білі люстэркі, каб не паказвалі не вельмі “прапарцыянальныя” з'явы-вобразы, што змрочна адлюстроўвалі нашае жыццё. Час рэзка змяніў грыф на “дазволена”. Але на асобных выставах хтосьці дзесьці мяняе яго на “чаго жадаеце?”. Толькі раней, у перыяд забаронаў, гэтае сакраментальна-афіцыйнае пытанне было звернута да ўлады трымаючых, а цяпер — да натоўпу альбо да тых, хто мае “баксы” і жаданне творам “прэстыжнага” мастака аздобіць свой офіс ці спальню.

А натоўпу і “тым” патрэбен кіч. Я не пра “ню”. Маральнасць народа пакутуе, як мне падаецца, не ад таго, што Даная аголеная, а ад таго, што на яе вылілі кіслату...

Мастацтва не можа быць бясполым. Яно можа быць “не мастацтвам”. Ні ў якой ступені не бяруся выназходзіць формулы. Тут усе крытэрыі гранічна асабістыя, і, мабыць, аб'ектыўнасць крытыка — у шчырай суб'ектыўнасці. З дзесяці такіх суб'ектыўнасцяў, магчыма, і складзецца меркаванне, да якога варта прыслухацца. Я толькі думаю, што мастацтву, паўнавартаснаму і плённаму, дазволена ўсё, што эстэтычна мудра, па-мастацку апраўдана і асэнсавана.

А калі мастацтва замяняецца дэманстрацыяй “джэнтльменскага” — на сёння — набору другасных прыкмет, — яно дарэмнае. Гутарка ідзе не пра прыкметы полу — гэта кіч учарашні. Размова — пра прыкметы часу. Сёння на выставу прыйшоў кіч ад палітыкі. Кіч, дзе Апалону ды Меркурыю стала няўтульна разам.

Яскравае сведчанне гэтага — апошняя выстава творчага аб'яднання “Пагоня”, дзе скандальныя палітычныя нюансы пераважаюць над праблемамі высокага мастацтва.

Увогуле кажучы, я разумею многіх мастакоў: вельмі хочацца адгукнуцца на час і ягоныя лозунгі. Усе хочуць адгукнуцца. Імкнуцца як мага хутчэй увайсці ў патрэбную “плынь” і адзначыць карцінай альбо скульптурай юбілеі ці то Скарыны, ці то Купалы, ці то Багдановіча, ці то Гусоўскага, альбо Дзень Перамогі, альбо дзесяцігоддзе Чарнобыля... Я нават ведаю аднаго жывапісца, які пісаў карціну пра Купалу, не чытаючы ягоных твораў наогул. Праўда, у працэсе працы азнаёміўся з біяграфіяй паэта. А колькі было іншых юбілеяў, на якія не па закліку сэрца трэба было “адгукнуцца”? І адгукнуліся — з надзеяй, што твор будзе набыты. І — спяшаліся... І — з'яўляліся муляжы “на тэму”.

Як бы ўзгадаць, што “служенье муз не терпит суеты”? Як і служэнне палітыцы. Як і жыццё ўвогуле: мы страшэнна мітусімся, — адсюль тлум і безліч твораў, што ўжо падчас вернісажаў адыходзяць у нябыт, гэта значыць, назад у майстэрні альбо, у лепшым выпадку, у пыльныя сховішчы музеяў ды галерэй.

Так, правільна, кожная эпоха стварала свой муляж у мастацтве. Карціны-муляжы, спектаклі-муляжы, фільмы-муляжы, кнігі-муляжы. Аднак, здавалася б, наша шматпакутная, унікальная паводле сацыяльных перападаў эпоха не справіцца з гэтым. Ёй неяк не да гэтага, ды і сорамна. Але, на жаль, муляжы ўжо экспануюцца ў вітрынах нашага напаўкастрыраванага жыцця. Муляжы, зробленыя “сацрэалістамі” і “неарэалістамі”, “авангардыстамі” і “канцэптуалістамі”, “постмадэрністамі” і “сацартыстамі”...

І прываблівацюць публіку, прынамсі, на шоувернісажы. Спецыфічную публіку...

А можа, мастацтву не патрэбна такая публіка? А патрэбен глядач?

Тут ёсць нейкая розніца. Як паміж натоўпам і народам. Як паміж дыялогам і лаянкай. А лаяцца вельмі не хочацца. Куды больш пажадана казаць адзін аднаму кампліменты. Магчыма, здолеем калі-небудзь?..

**Барыс КРЭПАК**

# КУЛЬТУРА

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

# ПЛЕНЭР НАПРЫКАНЦЫ ЛЕТА

25 жніўня 1997 года ў Магілёве ў святочнай атмасферы быў адкрыты II Міжнародны пленэр жывапісу імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. На радзіму нашага земляка з'ехаліся ўдзельнікі пленэру — жывапісцы з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Францыі, Швейцарыі, Эстоніі, а таксама госці з Мінска — вядомыя мастакі, мастацтвазнаўцы, журналісты, прадстаўнікі Савета Міністраў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Саюза мастакоў.

Раніцай 25 жніўня ўдзельнікі свята ўсклалі кветкі да помніка Вітольду Каятанавічу і наведалі выставу ягоных твораў і экспазіцыю "Мастакі ва Удомльскім краі".

Падчас афіцыйнага адкрыцця пленэру быў зачытаны прывітальны зварот да яго ўдзельнікаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

26 жніўня ў рамках пленэру ў абласным мастацкім музеі імя П.В.Масленікава адбылося адкрыццё выставы заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі прафесара Анатоля Бараноўскага. Адметнай рысай сёлетняга пленэру з'яўляецца тое, што ягоныя ўдзельнікі дзякуючы Саюзу мастакоў Расіі атрымаюць магчымасць дзесяць дзён папрацаваць у Цвярской вобласці, на акадэмічнай дачы "Чайка", дзе амаль паўстагоддзя жыў і працаваў В.К.Бялыніцкі-Біруля.

31 жніўня на месцы былой сядзібы Крынкі, дзе нарадзіўся мастак, будзе ўсталяваны мемарыяльны знак.

А 1 верасня ў Магілёве адбудзецца ўрачыстае адкрыццё помніка-бюста выдатнаму пейзажысту, народнаму мастаку Беларусі Паўлу Васілевічу Масленікаву, які быў адным з ініцыятараў правядзення на Магілёўшчыне I Міжнароднага пленэру імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Аўтар бюста — скульптар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Лятун. Затым адбудзецца адкрыццё мастацкага музея імя П.В.Масленікава.

Пленэр скончыцца 21 верасня вялікай выставай твораў яго ўдзельнікаў.

**Наш кар.**






На выставе жывапісу заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Анатоля Бараноўскага



Злева направа: мастакі з Польшчы Анджэй Кавалька і Ежы Удзела з Леанідам Дробавым



Вучань В.Бялыніцкага-Бірулі, старэйшына беларускага жывапісу Антон Бархаткоў (другі злева) з мастакамі Расіі.

# ГОНАР І ГОДНАСЦЬ НЕ ПАВІННЫ СТАЦЬ ПУСТЫМ ГУКАМ —

гэта адна з высноў, якія прагучалі на прайшоўшым нядаўна ў Цэнтральным Доме афіцэраў Міжнародным семінары па патрыятычна-выхаваўчай рабоце з моладдзю. Семінар праводзіла Міністэрства абароны Беларусі ў адпаведнасці з планам штаба па каардынацыі ваеннага супрацоўніцтва Садружнасці Незалежных Дзяржаў. На семінар былі запрошаны афіцэры міністэрстваў абароны ўсіх 12 краін СНД. Але прыехалі ў Мінск прадстаўнікі толькі трох краін: Расіі, Грузіі, Казахстана.

Месца правядзення семінара — Беларусь — было выбрана не выпадкова: улічваліся традыцыі патрыятычнага выхавання ў краіне і сучасныя дасягненні ў вырашэнні праблем маладзёжнай палітыкі.

Асноўная задача семінара — абмен вопытам арганізацыі патрыятычнага выхавання і дзяржаўна-прававой падрыхтоўкі асабовага складу ва ўзброеных сілах, а таксама выхавання моладзі ўвогуле.

У ходзе семінара было арганізавана знаёмства з вопытам выхавання моладзі ў арміі, навучальных і грамадскіх установах, а таксама экскурсіі па месцах, якія могуць служыць прыкладам вайсковай мужнасці.

Асноўным вынікам семінара, па словах намесніка міністра абароны Грузіі па выхаваўчай рабоце палкоўніка Давіда Сахадзе, стала тое, што першы падобны семінар сярод краін СНД усё ж адбыўся, а галоўнай адметнасцю гэтага семінара з'яўляецца добразычлівасць і прыветлівасць гаспадароў — беларусаў.

**М.Б.**

# РОЛІ ЎЖО РАЗМЕРКАВАНЫ

***Чалавек энцыклапедычных ведаў — акурат такое азначэнне адпавядае Уладзіміру Бутрамееву, творчая дзейнасць якога сапраўды здзіўляе. Прыгадайма: толькі за апошнія гады пабачылі свет ягоныя энцыклапедыя "Дзіцячы Плутарх", "Вялікія і славутыя зямлі беларускай"... Між тым напярэдадні новага тэатральнага сезона наш карэспандэнт гутарыць з Бутрамеевым-драматургам, п'еса якога прынята да пастаноўкі Купалаўскім тэатрам.***

*— Уладзімір, вы ўжо добра вядомы мінскаму гледачу па п'есе "Страсці па Аўдзею", якая стала "прапісалася" ў рэпертуары тэатра Янкі Купалы. У свой час спектакль быў добра прыняты, мінскі глядач ужо каторы год у палоне вашых "Страсцей..." І вось праз дзесяць гадоў пасля пастаноўкі гэтага спектакля — новая п'еса. Чаму менавіта Дастаеўскі? Ён, відаць, найбольш адпавядае вам, вашаму ўнутранаму свету?*

— Мне больш адпавядаюць якраз Аксакаў і Леў Талстой. Але па Аксакаву п'есу не напішаш, хіба што інсцэніроўку. Гаворка пра тое, што Дастаеўскі — адзін з пісьменнікаў, творы якога, на маю думку, патрабуюць у чытача абавязковага адказу. Фёдар Міхайлавіч напісаў свае творы ў канцы XIX стагоддзя і хацеў таго альбо не — такая ўжо асаблівасць вялікага таленту — у творах яго быў закладзены пэўны прагноз развіцця народа і дзяржавы. Зараз, напрыканцы стагоддзя, мы можам меркаваць, наколькі правільны быў той прагноз. Акурат вырашэнне гэтага пытання і сталася творчым імпульсам для напісання п'есы.

*— Як працавалася над п'есай?*

— П'еса была задумана як трэцяя да дзвюх папярэдніх маіх п'ес па Дастаеўскаму. Калі я прапанаваў тэатру п'есу "Адзін судны дзень братоў Карамазавых", яна быццам бы ўсім, хто чытаў, спадабалася, але паставіць яе ніякай магчымасці не было, бо гэта — п'еса-маналог, і не знайшлося акцёра, які змог бы правесці яе ад пачатку да канца. Калі ж Раеўскі даведаўся, што ў мяне задумана п'еса па "Сялу Сцяпанчыкаву", то адразу зацікавіўся і прапанаваў напісаць яе як мага хутчэй. Бо тэатру патрэбна была акурат такая п'еса. Такім чынам, тут якраз супалі запатрабаванасць тэатра ў п'есе па Дастаеўскаму і мая драматургічная скіраванасць на Дастаеўскага.

*— Дык гэта ваша аўтарская п'еса, а не інсцэніроўка паводле Дастаеўскага?*

— Паводле "Сяла Сцяпанчыкава" было некалькі інсцэніровак, прыкладны іх аб'ём — 200 старонак. Я напісаў п'есу на 50 машынапісных старонак, дзеля гэтага давялося скласці абсалютна іншую канцэпцыю ўсяго твора. І атрымаўся новы твор.

Калі прыгадаць літаратурны лёс "Сяла Сцяпанчыкава", то твор быў напісаны адразу як п'еса. Але п'еса ў Дастаеўскага не атрымалася, і ён перарабіў яе ў аповесць. Пасля таго як яна была нарэшце надрукавана Кірыеўскім, на яе зноў-такі чамусьці не звярнулі належнай увагі, амаль што не заўважылі. І толькі недзе напачатку XX стагоддзя яе ацанілі належным чынам. І ў рэшце рэшт звярнулі ўвагу на вобраз Фамы, як на унікальны характарны літаратурны вобраз наогул. Тады і пачалі рабіць па аповесці інсцэніроўкі, але ўсе яны былі літаральныя. Я ж напісаў абсалютна новую аўтарскую п'есу. Дарэчы, багатая вобразная лексіка аповесці дазваляе галоўнаму герою разгарнуцца ў п'есе і праявіць сябе аж на "200 працэнтаў". Невыпадкова галоўную ролю ў п'есе будзе выконваць Генадзь Аўсяннікаў — гэта якраз яго роля...

*— Якая назва п'есы, відаць, яна пакуль што ўмоўная?*

— Першая рабочая назва была "Сяло Сцяпанчыкава. Дастаеўскі". Гучыць як адрас, ці не так? З'явілася і другая назва — "Вечны Фама". У якім выглядзе назва будзе на афішы, пакуль невядома. На мой погляд, п'есе больш адпавядае назва "Вечны Фама". Якраз на гэтым вобразе я зрабіў асаблівы акцэнт.

*— Некалькі слоў пра драматургію п'есы.*

— Гэта п'еса — менавіта маё прачытанне "Сяла Сцяпанчыкава". Вернемся да таго, што аповесць Дастаеўскага шмат разоў інсцэніравалі. Але як? Драматургі дрыжалі над кожным словам Дастаеўскага, пераводзілі дыялогі ў дыялогі, але не пераводзілі дыялогі ў сітуацыі. Тут была выпрацавана зусім новая драматургічная канцэпцыя незалежна ад таго, што нам дае аповесць. Калі ў аповесці гэтага матэрыялу не было, але ён быў неабходны, то ствараліся новыя дыялогі. І наадварот, частка дыялогаў, нягледзячы на тое, што яны былі вельмі цікавыя, у п'есу не ўвайшлі, таму што не ўкладаліся ў новую канцэпцыю п'есы. Асноўная лінія — узаемаадносіны Фамы і ягонага дзядзькі — быццам, дазваляе прасачыць гледачу, як нараджалася ў грамадстве тая частка інтэлігенцыі, якая ў рэшце рэшт дазволіла рэвалюцыю 1917 года. Адвечны дэмагог Фама, "унукі" якога жывуць і па сёння, спараджэнне якраз таго часу.

*— Дык калі чакаць прэм'еры?*

— Рэпетыцыі неўзабаве пачнуцца, рэжысёр-пастаноўшчык Уладзімір Савіцкі, які ўдала дэбютаваў у пастаноўцы п'есы па Сухаво-Кабыліну "Смерць Кандзіда Тарэлкіна". Хутчэй за ўсё ў верасні ён прыступае да рэпетыцый, а ролі ўжо размеркаваны...

***Драматурга слухала Алена РЫГОРАВА***

У настальгіі развітання з летам — колькі яшчэ чакаць таго наступнага! — ёсць і радасная нота. Дзень ведаў — гэта не толькі традыцыйныя кветкі і нетрадыцыйныя ўсмешкі, гэта яшчэ і неверагодная колькасць праблем, з якімі мусяць справіцца бацькі, выпраўляючы сваіх дзетак чарговы раз у наступны клас. Якраз сёлета на адну праблему паболела: у Беларусі ўводзіцца плата за карыстанне школьнымі падручнікамі, атрымаюць падручнікі вучні 1 верасня, а разлічыцца за іх бацькі могуць аж да 1 кастрычніка. Што да школьных абедаў, то іх кошт на пачатку навучальнага года будзе складаць 15—18 тысяч рублёў. Гэты навучальны год адметны яшчэ і тым, што ўступае ў дзеянне прынятая ў ліпені Праграма развіцця сталічнай адукацыі да 2002 года. Застаецца дадаць, што ўсяго ў сталічных школах сядуць за парты больш за 255 тысяч дзяцей, а навучацца мінскія школьнікі будуць у 233 агульнаадукацыйных школах, з іх 19 — каледжы, ліцэі, гімназіі.

**А.Р.**













*Пра біяграфію чалавека сведчаць не толькі падзеі і справы, але і тыя людзі, што былі побач у розныя гады. Алесь Адамовіч сустракаўся, працаваў, сябраваў з людзьмі, якія былі гонарам нашай эпохі. І гэта кажа нам пра значнасць ягонай постаці не менш, чым напісаныя ім раманы, аповесці, літаратуразнаўчыя ды публіцыстычныя артыкулы і кнігі.*
*3 верасня Алесю Адамовічу будзе семдзесят гадоў.*
*А наперадзе ў яго — вечнасць.*









**Фотаўспамін Яўгена КОКТЫША**

№ 34 30 жніўня — 5 верасня 1997.
Першага верасня



# "ХАБЗА"

## НАТАТКІ ВЫКЛАДЧЫКА

Пэтэвушнікі — гэта зусім не тое, што навучэнцы звычайнай школы. Калі ў звычайнай школе ў кожным класе знойдзецца два-тры так званых "цяжкіх падлетка", дык у ПТВ яны амаль усе "цяжкія": з няпоўных сем'яў, з сем'яў, дзе бацькі п'юць, дзе нехта з бацькоў сядзіць альбо сядзеў у турме, дзе, у лепшым выпадку, проста страчаны кантакт паміж дзецьмі і бацькамі і г.д. За дваццаць сем гадоў работы ў адным з мінскіх прафтэхвучылішчаў я нагледзеўся на такіх падлеткаў, нямала "паваяваў" з імі, але, хоць яны і даліся мне ў знакі, я іх любіў і шкадаваў і дагэтуль люблю і шкадую. Мне здаецца, што я і сёння адказваю за іх. Таму і прапаную гэтыя нататкі, напісаныя яшчэ адзінаццаць гадоў таму. Перачытаўшы іх, я пераканаўся, што за гэты час нічога не змянілася, хіба што грошы выкладчыкам плоцяць "велізарныя" — цяпер усе яны мільянеры! А пэтэвушнікі засталіся тыя ж, а галоўнае — праблемы тыя ж.

Спадзяюся, што гэтыя мае старыя запісы будуць дарэчы на парозе новага навучальнага года. І не толькі на парозе.

### КАНТЫНГЕНТ

Хто яны, мае вучні? Яны — кантынгент! Гэта слова я чую на кожным кроку: "У нас такі кантынгент, што з іх возьмеш?" "Толькі б не страціць кантынгент!", — калі колькасць навучэнцаў ніжэй за норму хоць на аднаго чалавека — скарачай пэўную колькасць штатных адзінак, памер зарплаты адміністрацыі... Радасць: "Кантынгент прыбыў!" "Норма? Норма!"

Кожны ўрок пачынаецца так:

— Здравствуйте, товарищи учащиеся!

— Здравия желаем, товарищ преподаватель!

Казарма! Загадзя ўпэўнены — з імі, з усімі! — трэба як у войску, як у дысцыплінарным батальёне, каб адразу скруціць у баранаў рог, паставіць па стойцы "смірна". Таму што не дзеці — кантынгент, "цяжкія".

— Здравия желаем! — а заўтра атрымаеш дадатак да гэтага "здравия": веласіпедныя ланцугі для бойкі, нажы, кастэты, белыя пальчаткі, чорныя акуляры, "крутыя" прычоскі, а яшчэ —пратаколы з міліцыі, венерычныя захворванні...

Што з іх возьмеш? Такі кантынгент!..

А яны — розныя. Вядома, калі прыгледзецца, калі ёсць такое жаданне — прыгледзецца, убачыць не "кантынгент", а твары, характары, лёсы...

### ЯНЫ ЎЖО Ў СВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ

Ведаючы, што мінімальныя жыццёвыя запатрабаванні аднаго "статыстычнага" чалавека можна задаволіць, калі гэты "сярэдні" чалавек атрымлівае на месяц, зноў жа ў сярэднім, 75 рублёў (лічбы 1987 года), і ведаючы, што трэцяя частка нашага насельніцтва такого заробку не мае, вучоныя задалі народу пытанне, ці задавальняюць яго, народ, ягоныя заробкі? Незадаволеных аказалася 17,7 працэнта... Восемдзесят працэнтаў адказалі, што яны задаволеныя, з іх пяцьдзесят працэнтаў — вельмі. А калі ў тых жа 17,7 працэнта незадаволеных спыталі, колькі ім трэба для шчасця, адказ быў такім: "Накінулі б паўсотні — і досыць! Тады мы б увайшлі ў светлую будучыню!"

Вынік гэтага нескладанага даследавання больш жахлівы, чым пагроза СНІДу альбо радыяцыі: рэзкае зніжэнне ўзроўню запатрабаванняў да "якасці жыцця". Людзі амаль нічога не жадаюць, а значыць, у іх няма ніякіх імкненняў, ніякіх, так бы мовіць, фантазій, дзёрзкіх мараў...

...Прынеслі ў клас імпартныя красоўкі, — ёсць у класе некалькі чалавек, якія займаюцца фарцоўкай. Першаму красоўкі прапанавалі мне — паважаюць... Не, па дзяржцане аддаць не могуць, гэта была б не толькі страта грошай, гэта — страта прафесійнай годнасці "фарцы". Пытаюся: "Можа, у вас ёсць старыя кнігі?" Ёсць! Прынеслі і аддалі "за так" некалькі "Евангелляў", малітоўнікаў, падручнік па законе Божым для царкоўна-прыхадской школы. Усе выданні мінулага стагоддзя. "За так"! А красоўкі, сумкі, касметычкі, джынсы — за дзве цаны. "Паўсотні да зарплаты" здзяйсненне "светлай будучыні"...

### ГЕРАІНЯ З ПРЫЛУЦКАЙ

Многія маці маіх вучняў і вучаніц прызнаваліся мне, што іх сын альбо дачка — "незапланаванае" дзіця, яно не павінна было нарадзіцца, яго "не чакалі". Да таго ж насілі яго пад сэрцам у атмасферы скандалаў і боек. І не ведала жанчына, што дзіця, якое яна носіць пад сэрцам, усё чуе! І ведае, што яго не хочуць, не чакаюць, не любяць. Так, ведае. Гэта даказана навукай. А потым...

Вяртаецца дзяўчынка з венерычнага дыспансера — сіфіліс. А ў групе яе сустракаюць як алімпійскую чэмпіёнку. "Масцярыца" — выкладчыца вытворчага навучання — псуе трыумф: "Гераіня з Прылуцкай!" (На вуліцы з такой назвай знаходзіцца дыспансер.) Гераіня ў адказ — брыдкімі словамі. Я — класны настаўнік — загадваю дзяўчынцы застацца пасля ўрокаў: "Пагаворым..." Божа, як яна плача! Зусім яшчэ дзіцянё горкае...

Яна тройчы выцягвала сваю маці з пятлі... Чатыры мужы яе кінулі... Двое з гэтых "мужоў" спрабавалі згвалціць нашу "чэмпіёнку". Першае "знаёмства" з хлопчыкам было, каб адпомсціць айчыму, маці, усяму свету. "Вы мяне не чакалі, не жадалі, не любілі, ну дык вось вам!"

Што тут скажаш?

### ЯК УСЕ...

Майго вучня выклікаюць у суд — сведкам па справе аб групавым згвалтаванні. Пытаюся: "А калі б ты ў той вечар застаўся з імі, таксама ўдзельнічаў бы?" — "Відаць, удзельнічай бы..." "Але ж гэта — турма!" — "Ну, так, але неяк няёмка перад хлопцамі... Як усе, так і я..."

### "І ТЫ Б СТРЭЛІЎ У МЯНЕ?"

Тэма — Вялікая Айчынная. Тут мне не патрэбны падручнік. Пра "дзесяць сталінскіх удараў" яны і без мяне даведаюцца, а вось пра тое, як Лёньку-Кабану на маіх вачах асколкам бомбы руку адарвала, як мы да параненых лётчыкаў у шпіталь хадзілі, як у маёй роднай Вінніцы, на Украіне, немцы жыўцом закапалі за горадам тысячы яўрэяў, а тых, хто спрабаваў уцячы, з рогатам расстрэльвалі і цкавалі сабакамі...

— Іх усіх трэба было расстраляць! — перабівае мяне голас з "галёркі".

— Усіх?

— Усіх!

Рухавы, жвавы хлопчык, жывыя разумныя вочы... Вучыцца няблага — на чацвёркі... Добра, што хоць не баіцца адказваць на пытанне. Клас — абыякавы, што тут такога — расстраляць усіх яўрэяў?

Пачынаю тлумачыць, чаму Гітлер хацеў знішчыць менавіта гэты старажытны народ, тлумачыць, што такое антысемітызм, адкуль ён узяўся, што за ім хаваецца. Многія, калі не ўсе, упершыню чуюць пра гэта...

— Ну як, ты ўсё яшчэ за расстрэл яўрэяў?

— Так! — з выклікам нават...

— Растлумач, чаму?

— А таму, што хітрыя! Беларусаў падманваюць, на цяжкой працы іх не ўбачыць, у полі ці на заводзе! Махляры! На грошы сквапныя!

— Усе?

— Усе!

— Значыць, расстрэл?

— Так!

— Усім да адзінага?

— Усім!

Я вымаю з кішэні свой пашпарт.

— Падыдзі сюды!

Ён падыходзіць, і я падаю яму пашпарт:

— Чытай! Толькі гучна, каб усе чулі.

Ён зачытвае прозвішча, імя, імя па бацьку, даходзіць да пятай графы. І замаўкае.

— Ну, чытай!

— Яўрэй...

Клас — у шоку. І хлапец гэты — у шоку. Ды і я сам: гэта ж трэба — столькі часу яны не ведалі, хто я такі! Ці мо я паводзіў сябе неяк не па-яўрэйску, што збіў іх з панталыку. Хоць, праўда, я ніколі не ведаў, як я сябе паводжу, як трэба сябе паводзіць, каб было "па-яўрэйску"!

— Бачыш, я таксама яўрэй... І ты б стрэліў у мяне?

Цішыню — мёртвую! — парушае голас "з народа":

— Ён жа не ведаў...

— Гэта нічога не мяняе... Добра, сядай!..

Адна радасць, што даведаліся: аднаго яўрэя можна было б не расстрэльваць...

### КАНЕЦ СВЕТУ

Другі курс. "Кантынгент" ягоны — пятнаццацішаснаццацігадовыя.

Адна з гэтага "кантынгенту". У хвіліну шчырасці, спрабуючы пераканаць мяне ў тым, што свет, што б я ні казаў, якія б "станоўчыя прыклады" ні прыводзіў , — што свет гэты жорсткі, агідны і раўнадушны, расказала мне, адкуль у яе бываюць грошы.

Яна з сяброўкай, прычыпурыўшыся, выходзіла на паляванне. Сяброўка хавалася дзе-небудзь у кустах ці за слупом ліхтара, а яна спыняла "Волгу" ці "Жыгулі", кіроўцамі якіх былі мужчыны гадоў сарака-пяцідзесяці: падымала руку і прапаноўвала сябе. Кошт ад 200 да 300 рублёў. Час "палявання" — дзве-тры гадзіны, каб увечары быць дома "паінькай". Некаторыя мужчыны адмаўляліся ад паслуг, але такіх было мала. Большасць "клявалі" на "свежанькае". І "сумленна" плацілі. Але здаралася, што загадвалі вымятацца з машыны, а то і пабіць. У такіх выпадках юная гетэра нявінна казала: "Вы, калі я вас спыніла, відаць, не заўважылі маю сяброўку, якая стаяла каля ліхтара? А яна запісала нумар вашай машыны! А цяпер падумайце! Заўтра я наведаюся да вас на работу — у партбюро ці да вашага начальніка, потым пайду да вашай жонкі. А потым — у міліцыю. Я — непаўналетняя!.. А за непаўналетнюю што з вамі будзе? Вам гэта трэба?" Плацілі, і яшчэ як! Бо ахвотнікаў да салодкага задарма яна карала падвоенай платай!..

Я пацікавіўся ў маладзенькай шантажысткі, ці не было ў яе кахання проста так, без грошай? Яна адказала, што і цяпер ёсць: адзін гандляр, яму 55 гадоў. Ён дастае ёй фірмовыя шмоткі па дзяржцане, — трэба ж неяк яму аддзячыць!

"Канец свету, — падумаў я ў роспачы. — Канец свету!"

### "ЗАТЕМ, ЧТО ВЕТРУ И ОРЛУ И СЕРДЦУ ДЕВЫ НЕТ ЗАКОНА!"

Паэт і бард са старой "аўтарскай" гвардыі Юлій Кім у цяпер ужо даўняй жартаўлівай песеньцы, занадта жартаўлівай для таго, каб зразумець, што ў ёй не толькі жарт, расказаў аб тым настроі, у якім мы, настаўнікі, часта знаходзімся. Хоць спяваў не пра нас, дакладней, не толькі пра нас:

*Ой ты, полюшко, березонька,*
*околица,*
*Лебеда, калина, сито, решето!*
*Ой, что хочется, то колется,*
*Что колется — не можется,*
*Что можется, то, кажется,*
*не то.*

А так хацелася, так калолася, што, глядзіш, і маглося! Як сарвуся, бывала, як распачну на ўсе сорак пяць мінут, ад званка да званка, замест тэмы "Грамадзянская вайна — вялікі подзвіг савецкага народа" чытаць вершы пра каханне! Таго ж Сіманава, з ягонай кнігі "З табой і без цябе", пра якую таварыш Сталін некалі сказаў з уласцівым яму катэгарычным гумарам: "Вынес ложак на Красную плошчу! Гэтую кніжку трэба выдаць у двух экземплярах: адзін яму, другі — ёй".

А мае "кантынгенцы" сядзяць — муху чуваць! І ўвачавідкі бачу, як у цемру іхніх душаў прарэзваецца светлы праменьчык. І адчуваеш сябе Богам, арлом, якому няма канца вышыні і межы. "Затем, что ветру и орлу и сердцу девы нет закона!" Гэта ўжо — Пушкін.

Вось так бы і настаўніку — без "закона". А яшчэ б яму хоць крыху павагі ад уладаў і ад працоўнага люду. Вось і ўся мара...

### ВЫБАР

Адна з навучэнак некуды знікла і вярнулася толькі праз тыдзень: "пад завязку" надыхалася свабодай у вясёлых кумпаніях, на "хазах", на вакзале, у забягалаўках. Выкладчыцу вытворчага навучання распіналі ўвесь гэты тыдзень: не жарты — прапала дзяўчынка!..

Склікалі камсамольскі сход групы. Дзяўчынкі выказваюцца пра ўчынак сяброўкі так, нібы размова ідзе пра атрыманую ёй двойку альбо пра тое, што яна сачканула з урокаў, — з кім не бывае?

— Я мушу вам напомніць, — кажу, — што наша прыгажуня зрабіла... як бы гэта памякчэй?.. першы крок да засваення другой старажытнай прафесіі. Вам так не здаецца, дзяўчаткі мае мілыя?

— Дзяўчаткі?! — ускінулася "масцярыца". — Яны —дзяўчаткі?! Ды яны... — і яна ўжыла тое слова, на якое я не адважыўся нават у яго літаратурным гучанні.

І тут мне захацелася ў знак пратэсту "рвануць на грудзях кашулю" і разам з маімі падапечнымі кінуцца ў "загул". Каб тая "масцярыца" ляпу сваю дурную разявіла! Але тут жа згадаў "культурны ўзровень" "масцярыц", ды і астатніх настаўнікаў, згадаў, як ім жывецца на іх, з дазволу сказаць, зарплату... Але ўсё ж прыемна было — недзе ў глыбіні душы, — што настаўніцкае маё сэрца аказалася на баку слабых, на баку гэтых дзяўчынак і хлопчыкаў. Уся педагогіка вады ў рот набрала! Тут — пачуцці! Выбар сумлення.

### СЯДЗІ ЦІХА!

Ідзе ўрок. Цішыня. І раптам голас, незадаволены, патрабавальны:

— Што вы ўвесь час круціцеся, як на іголках?

Я слупянею: "Гэта — мне?!"

— Я вас малюю, а вы і хвіліны не пасядзіце спакойна. Сядзіце ціха!

Клас выбухае рогатам. Аслупяненне маё адразу знікае — рагачу разам з усімі. І да канца ўрока сяджу ціха. Пазірую.

Партрэт той — захоўваю.

### ЯКІМ ПАВІНЕН БЫЦЬ НАСТАЎНІК?

Неяк у мяне завязалася перапіска з чалавекам, які знаходзіўся ў зняволенні за забойства. Сядзеў ён ужо сем гадоў, заставалася яшчэ пяць, але ён лічыў, што сядзіць "няправільна", што суд быў несправядлівы. Таму ён і напісаў мне: "Спадзяюся, што вы мне дапаможаце. Я гатовы адседжваць, але сваё, а не чужое". Нічым я яму не дапамог, хоць і напісаў ліст на імя Генеральнага пракурора СССР Р.А.Рудэнкі. І атрымаў адказ: "Грамадзянін — прозвішча, імя, імя па бацьку — "сядзіць за сваё". Аднак справа не ў гэтым, а ў тым, што менавіта ад гэтага арыштанта я даведаўся, якім павінен быць настаўнік. Там, у калоніі строгага рэжыму, чалавек гэты прыйшоў да формулы, якую і выклаў у адным са сваіх лістоў да мяне: "Пісьменнік павінен быць праўдзівым, адвакат — разумным, салдат — адважным. А настаўнік павінен спалучаць у сабе ўсе гэтыя якасці і быць, у дадатак да ўсяго, яшчэ і добрым".

### АПЛАДЫСМЕНТЫ

Хлопчык на перапынку ўдарыў школьніцу. У твар.

Я: — Гэта ўчынак піце-

кантропа! Далей няма куды!

З класа: — Чаму няма куды? А шасцікантропы, сямікантропы?

Лёгкае, вясёлае ажыўленне, на фоне якога мая прапанова гучыць нечакана:

— Ты павінен пайсці і папрасіць прабачэння. І зрабі гэта так, калі ласка, каб яна не здагадалася, што цябе паслаў я.

— Ні-ко-лі! Хоць з вучылішча выганяйце!

— Ну, што ж, тады гэта зраблю я.

— ?!

— А што рабіць? Ты падумай: калі я — твой настаўнік, а ты дазволіў сабе ўдарыць дзяўчынку і не лічыш патрэбным павініцца, дык я мушу зрабіць гэта сам. Бо, паўтараю, я —твой настаўнік.

Клас ператварыўся ў дзеючы вулкан. Да дзвярэй мяне не падпускалі — кінуліся на яе, як на амбразуру. Некалькі чалавек акружылі "баксёра" і нешта "ласкава" яму ўнушалі. Праз мінуту ён пайшоў з класа.

Вярнуўся ўзрушаны, нейкі зусім іншы, увесь, як той казаў, "ва ўладзе невядомых яму раней пачуццяў".

" Ну што?" — спытаўся я моўчкі, аднымі вачыма.

Клас напружана чакаў, што ён скажа.

Нарэшце ён здзіўлена і разам з тым шчасліва ўсміхнуўся:

— Як артыста праводзілі! Пляскалі ў ладкі! Далібог!..

І тут заапладзіраваў клас. А я глядзеў на іх і думаў: "Дай вам Бог на ўсё жыццё запомніць, як гэта хораша, як прыгожа — "знявважыць" сябе прабачэннем перад жанчынай!"

### АБ ГІГІЕНЕ

— Як вы лічыце, калі чалавецтва навучылася чысціць зубы?

Тысячу разоў заводзіў з імі размову на гэтую тэму, таму што ведаю: большасць хлопчыкаў і многія дзяўчынкі не чысцяць зубы ні раніцай, ні ўвечары.

Нехта выгукнуў:

— Сто год назад!

— Значыць, ні Пушкін, ні Лермантаў, ні Ламаносаў, ні Пётр Першы зубы не чысцілі?

Збянтэжана заўсміхаліся: сапраўды, як гэта такія людзі не чысцілі зубы?

Добра, зараз я вас здзіўлю! Як той казаў, ад здзіўлення і "дзеці нараджаюцца"!

— Дзве з паловай тысячы гадоў таму старажытныя грэкі раніцай, пасля сну, жавалі зялёныя лісточкі мяты...

З цікаўнасцю слухаюць, маўчаць. Можа, сёння хоць хто-небудзь купіць пасту і зубную шчотку? Хоць на міліметр наблізіцца да Пушкіна!

### ШТО ШУКАЦЬ?

Дзе гэта я чуў? "Дзеці разам з настаўнікамі павінны шукаць страчаныя каштоўнасці". Але для гэтага неабходна, каб хоць бы настаўнікі ведалі, што страчана і як трэба шукаць!..

### СТОГН

"Божа мой, Божа!.. — стагнала "масцярыца". — Трэцяя цяжарнасць у групе! Былі ж некалі жалезныя паясы! Такі спосаб цудоўны: як ні хочацца, а не дасі!..

Спосаб, вядома, цудоўны. А яшчэ лепей было б, калі б нашы навучэнцы ды і ўвесь народ былі бясполыя. Ніякіх праблем: і цяжарнасцей няма, і на жалеза эканомія!

### ГАЛОЎНЫ АДСЕК

Калі тоне карабель, трэба не сцяг ратаваць, а той адсек, у якім прабоіна. Сёння яна ў тым адсеку, які называецца "культура і народная асвета". А вы думалі, у адсеках з назвамі "эканоміка", "палітыка", "рынкавыя адносіны"? Забыліся, што менавіта школа вызначае літаральна ўсё? Што менавіта школа —базальтавая аснова дзяржавы? Не выратуем галоўны адсек — карабель перакуліцца...

### А МОВЫ ЎСЁ РОЎНА НЕ ВЕДАЮЦЬ...

Сімпатычная з тварыку, разумненькая ў побыце, спрытненькая, маладзенькая, але ўжо "развядзёнка". Выкладае рускую мову. Настаўніцкага вопыту ніякага, прадмет свой ведае кепска. І — гультайка. Яе калега — "старая ваўчыха", настаўніца экстра-класа, працуе, як "ломовая лошадь". Хоць зрушыць з месца гэты воз непісьменнасці, якім вызначаецца, а магчыма, і ганарыцца "хабза" (калі ты пісьменны, значыць, "не наш"!), —задача для вар'ята. Памятаю, як я аслупянеў, калі "ваўчыха" паказала мне дыктант на паўстаронaчкі, дзе было напісана: "оцец", "исчо", "имеочиство" — усяго 64 памылкі! Але "ваўчыха" не здавалася, білася за рускую мову з адчаем асуджанага на смерць і з упартасцю дзіцяці, якому не дазваляюць хадзіць па лужынах. Яна штодзень працавала з "хабзайцамі" над памылкамі, пакідала іх пасля ўрокаў пісаць бясконцыя дыктанты.

Аднойчы я стаў сведкам размовы "ваўчыхі" з маладой выкладчыцай.

— Іна Антонаўна, праз вас мяне завучыха таўчэ! Каб я з вас прыклад брала. Але ж я не магу тырчэць у школе з раніцы да позняга вечара! Вы думаеце, ім вашая пісьменнасць патрэбна?

— А як жа, Леначка? Чалавек павінен быць пісьменным. Хіба можна не ведаць мовы?!

— Ну і вучыце іх у свой рабочы час. Вам за яго грошы плоцяць, а не за вашу кругласутачную вахту! Атрымліваецца, што я на вашым фоне — заядлая прагульшчыца. Мне што, ад дзіцяці адмовіцца і ад асабістага жыцця дзеля вашай стаханаўшчыны?!

— Леначка, гэта вельмі дзіўна... Я ж нікога не прымушаю... Я працую як магу... Я... не умею інакш!..

— Ага! Вы як фельчар з нашай вёскі.

— Не разумею... Які фельчар?

— Фельчар у нашай вёсцы быў. Загадзя, як вы, работай сябе забяспечваў, усё баяўся, што грошай яму не хопіць!..

— Не разумею...

— Што тут разумець? Малады ён быў, прыгожы. Дзеўкі да яго ліплі. І, вядома, зацяжарвалі. І зноў да яго ішлі! Каб ён ім аборты рабіў. За грошы! Так і вы сабе звышурочную работу знаходзіце. З той толькі розніцай, што вам за яе не плоцяць...

"Ваўчыха" анямела. Збялела. Потым ціха сказала:

— Леначка... але ж гэта... несумленна! За свае агрэхі браць грошы! А гэта ж нашы з вамі агрэхі, іхняя непісьменнасць...

— А бясплатна працаваць, гэта сумленна? Каб мне вашу стаханаўшчыну ў вочы тыцкалі?!

Прайшлі гады, маладая рацыяналка набыла пэўны вопыт, аднак працуе гэтак жа, як некалі. Задарма ані кроку. А "ваўчыха" па-ранейшаму працуе над памылкамі — ад цямна да цямна. А "хабза" як не ведала мовы, так і не ведае. Відаць, не ў дыктантах бясконцых справа. А ў чым?..

### "КАЗЛЫ", "ПІДАРЫ", "КАЛДЫРЫ"

Урок у групе, дзе адны дзяўчынкі. Застаецца да канца мінут пяць. Трэба даць ім адпачнуць, але каб і карысць была.

— Падыміце рукі, хто з вас хоча выйсці замуж за прынца — прыгожага, высакароднага, мужнага, шчодрага?

Лес рук — усе хочуць пабрацца з прынцам!

— Цяпер вазьміце па лісточку паперы і хуценька напішыце на іх словы, якімі вы паміж сабою называеце хлопчыкаў, — тых, з якімі дружыце. Падпісвацца не трэба — апытанне ананімнае.

І вось трыццаць лісточкаў на стале. Зачытваю ўголас:

— Цюфяк, таўстун, рыбла, лабан, крыж, ліс, коцік, казёл, підар, сцыкло, падонак, калдыр, мілы, мудак, звездануты...

Рогат.

— А цяпер паслухайце, як хлопчыкі называюць вас, — я правёў сярод іх такое ж апытанне. Дарэчы, яны таксама хацелі б ажаніцца з прынцэсамі, а пра сваіх сяброўак напісалі: соска, кішка, плюшка, авечка, цёлка, кашолка, шмара, мачалка, швабра, посцілка, плужанка, матыка, піларама, наждачка, скура, мікітра, бікса, пакля, піпетка, венік...

Цішыня. А потым — выбух абурэння. Лаянка. І зноў — цішыня.

Растлумачваю спакойна: якія дзяўчынкі — такія і хлопчыкі.

— Хочаце выйсці замуж за прынцаў — станавіцеся прынцэсамі. Бо "соскі", "цёлкі" і "посцілкі" могуць пабрацца толькі з "казламі", "підарамі" і "падонкамі". У душы павінна быць чыста, як у хаце, без смецця па завуголлях. А гэтыя ўсе вашы словы — смецце. І словы хлопчыкаў — смецце.

Задумаліся...

### ЧАЛАВЕК ТЫПУ НАСТАЎНІК

Лексіка аднаго з выкладчыкаў вучылішча:

— Транспартны сродак тыпу машына.

— Чалавек тыпу жанчына.

— Магазін тыпу кіёск.

Ён уваходзіў у клас і абвяшчаў:

— Зараз мы пачнем наша ўзаемадзеянне...

І клас хорам заканчваў за яго:

— ...тыпу ўрок!

Вось так!.. Народная адукацыя тыпу ПТВ...

**Навум ЦЫПІС**

МАРАЛЬ І ПРАВА

# ВЫБАР ПРАФЕСІІ

***Сёння мы працягваем друкаваць цыкл матэрыялаў, падрыхтаваных псіхолагам Канстанцінам СЯЛЬЧОНКАМ. Першую гутарку на тэму "Мараль і права" вы маглі прачытаць у № 30.***

**— Ці можна вызначыць схільнасць чалавека да прафесіі, каб ён потым не шкадаваў аб пражытым жыцці, і ў якім узросце гэта лепей рабіць?**

— Так, безумоўна, схільнасць да прафесіі можна вызначыць дастаткова дакладна з дапамогай самых разнастайных метадаў. І я хацеў бы адзначыць, што клапаціцца пра выбар прафесіі вельмі важна. Таму што прафесія — гэта сінонім жыцця, сінонім місіі. Якія б метады і спецыялісты ні дапамагалі чалавеку вызначыць правільны шлях самарэалізацыі, гэта ўсё не мае сэнсу і карысці, калі чалавек сам у дастатковай ступені не цікавіцца тым, кім ён стане. У пэўным сэнсе гэта залежыць і ад таго, чым ты займаўся. У чым ты майстар? Метадаў шмат, у тым ліку метады, з якімі працуюць спецыялісты "Банка Талентаў Народа" і якія здольныя вызначыць прафесійныя схільнасці адразу пасля нараджэння. Мы, на жаль, гэтым наогул не цікавімся, і людзі сапраўды аказваюцца зламанымі, калі яны не клапоцяцца пра тое, каб абраць той тып заняткаў, які ім сапраўды падабаецца і прыносіць задавальненне.

**— Скажыце, калі ласка, ці з'яўляецца прафесія галоўным у жыцці чалавека?**

— Я глыбока перакананы, што прафесія — не адзіная каштоўнасць, але тое, што яна з'яўляецца галоўнай справай, асновай, падмуркам жыцця чалавека, — гэта дакладна. Нават калі ён абірае "прафесію" хатняй гаспадыні ці шлях самаспазнання, прафесійнай псіхалогіі альбо ёгі. Кожнае майстэрства дасягаецца менавіта ў выніку прафесіяналізацыі, станаўлення чалавека як творчай асобы. Якімі б ні былі сямейныя праблемы, якімі б ні былі тыя або іншыя аспекты жыцця, яны нібыта групуюцца каля прафесіі. Якім бы ні быў чалавек, мы ўсё роўна адзначаем, майстар ён ці не, прафесіянал або не прафесіянал. Таму прынцып майстэрства — гэта вельмі сур'ёзны аспект самаспазнання, і калі заўгодна, важны маральны абавязак перад сабою і перад іншымі. Дасягненне майстэрства і слушны выбар прафесіі — гэта галоўная ўмова шчасця.

**— Ці часта людзі памыляюцца ў выбары сваёй прафесіі? І з чым гэта часцей за ўсё звязана?**

— Так. Вельмі часта. Бо людзі падпарадкоўваюцца модным плыням і накірункам. Часта здараюцца памылкі, калі бацькі навязваюць выбар прафесіі дзецям альбо калі чалавек ілюзорна ўяўляе сабе нейкую прафесію, да прыкладу, прафесію ўрача. Здаецца, гэта штосьці чысценькае, у белым халаціку, у кабінеце. Калі ж яны рэальна сустракаюцца з праблемамі гэтай прафесіі, дык іншы раз пачынаюць моўчкі ненавідзець яе, нават калі працягваюць выконваць свой абавязак. Я мяркую, тут галоўная праблема ў тым, што людзі несур'ёзна ставяцца да выбару сваёй прафесіі. Чалавек часта не здольны ўсвядоміць, што ад правільнасці выбару прафесіі залежыць ягонае чалавечае шчасце і сямейны дабрабыт, фінансавыя поспехі, стасункі з людзьмі. У пэўным сэнсе майстэрства з'яўляецца тым коранем рашэння праблем, з якога расце ўсё астатняе. Здараецца, што прафесія разглядаецца як штосьці вонкавае, як справа, за якую чалавек атрымлівае толькі грошы, у выніку выбар здзяйсняецца няправільна, чалавек трапляе не "ў сваю пясочніцу". І пакутуе на працягу многіх гадоў, не маючы магчымасці гэта змяніць.

**— Да чаго прывядзе няправільны выбар прафесіі?**

— Коратка — да няшчасця. Чалавеку, які не адчувае ўласнай самарэалізацыі і некаторага экстазу ўлады над сваёй прафесіяй, улады над матэрыялам, які не адчувае, што займаецца СВАЁЙ справай, наканаваныя тыя ці іншыя непрыемнасці.

**— Ці выпадкова чалавек абірае сабе прафесію?**

— Пытанне вельмі цікавае, але я паспрабую яго сфармуляваць інакш, і тады адказ стане зразумелым. Ці з усёй адказнасцю мы абіраем прафесію? Я проста лічу, што часта людзі з тых альбо іншых прычын абіраюць прафесію, не задумваючыся ўсур'ёз аб тых занятках, якім будуць прысвечаны многія гады. На самай справе чалавек цалкам адказвае за тое, чым ён будзе займацца і ці будзе ён атрымліваць радасць ад працы, і ці будзе ён шчаслівы.

**— Я хацеў бы з вамі паспрачацца. Ёсць прафесіі, якімі займаюцца да 30 — 35 гадоў, да прыкладу, прафесійныя спартсмены, балерыны. Яны не могуць абраць сабе прафесію на ўсё жыццё, хаця сапраўды захопленыя сваёй справай. Як быць гэтым людзям?**

— Справа ў тым, што прафесія не зводзіцца да сукупнасці выканання нейкіх вонкавых дзеянняў, і яна не адпавядае пэўным паводзінам у грамадстве. Прафесія — гэта склад душы і творчасці ў тым працэсе, якім чалавек займаецца. Нават пакідаючы балет, чалавек застаецца танцоўшчыкам на ўсё жыццё. Гэта нешта інтымна-псіхалагічнае, а не інструментальна-псіхалагічнае. Прафесія — гэта стыль жыцця, прафесія — гэта стаўленне да таго, што ты ўвогуле робіш. Ёсць прафесійныя дабрачынцы, яны могуць займацца чым заўгодна, а ў душы яны будуць дапамагаць людзям, ёсць прафесійныя хатнія гаспадыні. Нездарма кажуць, што слесар-інструментальшчык можа быць цудоўным мастаком, знаходзячы рамантыку ў працы з металам. А рэжысёр можа быць халтуршчыкам, калі ён не любіць сваю прафесію.

**— Калі чалавек трапіў не на сваё месца, дык што яму лепей зрабіць — перайсці на іншае месца альбо паспрабаваць палюбіць сваю прафесію?**

— Гэта справа асабістага выбару. Альбо чалавек прыстасоўваецца да сваёй прафесіі і знаходзіць у ёй сваю паэзію, сваю рамантыку, альбо ён знаходзіць новае поле для выкарыстання сваіх здольнасцей. Але галоўнае, каб ён не адышоў ад гэтага выбару. Ён павінен вырашаць сам. Мне падаецца, што перамена прафесіі на самай справе не такая ўжо і цяжкая, як мы прызвычаіліся лічыць. Хтосьці можа знайсці задавальненне ў знешне малапрывабнай прафесіі. Гэта таксама вельмі цікавая духоўная праца. Але самае дзіўнае, што большасць людзей і не мяняюць прафесію, і нічога не збіраюцца рабіць. Я мяркую, гэта галоўная праблема агульнай незадаволенасці жыццём, яна проста трансфармуецца ў розныя віды незадаволенасці. Але на самай справе ўсё гэта ад таго, што чалавек не адчувае сябе творцай, майстрам.

**— Часцей за ўсё прафесіі падзяляюцца на тыя, дзе можна зарабіць, і тыя, дзе можна ствараць.**

— Мяркую, гэта — забабоны. Чалавек, які хоча зарабляць, і чалавек, які хоча ўзяць сваё жыццё ва ўласныя рукі, цалкам у стане займацца любімай справай. Добра вядомы факт жыцця многіх мастакоў і паэтаў, якія, да прыкладу, працавалі прыбіральшчыкамі і знаходзілі ў гэтым задавальненне. Гэта дазваляла не залежаць ад кіраўніцтва — па-першае, зарабляць грошы — па-другое, і пры гэтым займацца любімай прафесіяй. І яны спакойна займаліся творчасцю на вуліцах з мятлою ў руцэ, каб потым пісаць карціны. Я думаю, выйсце заўсёды ёсць.

**— Чым небяспечны выпадковы выбар прафесіі?**

— Я глыбока перакананы ў тым, што наша прафесія — заўсёды побач, мы прыцягваем і людзей, і абставіны, якія адпавядаюць нашаму ўнутранаму свету. Бяда ў тым, што мы поўныя стэрэатыпаў: цяжка змяніць, нельга перайсці, гэта вельмі цяжка і да т.п. Хаця магчымасці для шчасця заўсёды ёсць. Я хацеў бы адказаць на пытанне з медыцынскага аспекту. Вядома, што калі чалавек у прафесіі творча самарэалізуецца, гэта значыць, праяўляе сваё "Я" — гэта мае энергетычную кампаненту. Ён знаходзіцца ў светлым, радасным настроі і, натуральна, аздараўліваецца. Чалавек, незадаволены сваёю працай, сабой, сваім атачэннем, атручвае сябе адмоўнымі эмоцыямі і хварэе. Вось, дарэчы, для чаго людзі займаюцца хобі. Калі чалавек пераходзіць да працы, якая яму адпавядае, у яго знікаюць многія захворванні. Чаму? Праз яго пачынае цекчы тая энергія, якая дадзена яму ад нараджэння для прынясення свету радасці.

**— Прынята лічыць, што адзін раз за сем гадоў чалавек павінен змяніць прафесію, свой выбар.**

— У псіхарытмалогіі існуе 7-гадовы цыкл. І гэта датычыцца не толькі змены прафесіі, — сам чалавек мяняецца праз сем гадоў. Існуюць 3-, 5-, 7- і 12-гадовыя рытмы, па якіх можна вызначыць спантанныя змены самога чалавека. Нават калі чалавек не мяняе від заняткаў, ён змяняе стыль прафесійнай самарэалізацыі. Ён альбо ўзнімаецца ўверх па службовай лесвіцы, альбо вынаходзіць штосьці новае, новыя формы стасункаў. Гэта значыць, трансфармуецца сам. Іншая справа, што мы часта не раздумваем над гэтай неабходнасцю.

**— Ці магчыма ў школе вызначыць прафесійныя схільнасці дзіцяці?**

— На сёння прафесіяграфія ў нас знаходзіцца ў зародкавым стане. Мы бярэм удзел у развіцці "Банка Талентаў Народа", дзе знаходзіцца інфармацыя, што дазваляе чалавеку разабрацца даволі дакладна з пытаннем: чаго ж ён хоча?



# У ВІЦЕБСКУ ЁН ШУКАЎ ДУШЭЎНУЮ РАЎНАВАГУ...

Мсціслаў Валяр'янавіч Дабужынскі... Гэтае імя шырока вядомае ў сусветным мастацтве. Цудоўны сцэнограф, бліскучы графік, таленавіты жывапісец, ён пражыў доўгае творчае жыццё. Адзін з арганізатараў знакамітага "Свету мастацтва", ён валодаў энцыклапедычнымі ведамі, меў шырокую артыстычную натуру і здзіўляючае мастакоўскае ўяўленне.

У нейкім сэнсе ён быў нібыта "сам па сабе" і істотна вылучаўся сярод сваіх братоў па цэху. Не паддаючыся ілюзіям і самагіпнозу, Дабужынскі валодаў строгім і цвярозым разуменнем жыцця. Іронія і сарказм былі звыклай з'явай у ягоных творах, што часцей за ўсё былі прысвечаны ягонаму часу.

Праўда, як кніжны ілюстратар і тэатральны дэкаратар, ён, натуральна, часцяком звяртаўся і да мінулых эпох, але ў карцінах, акварэлях, гравюрах і малюнках зазвычай адлюстроўваў навакольны свет.

Горад, перакрыжаванне лёсаў гісторыі і людзей, горад як поле надзей, трывог і драм, доўгія гады заставаўся галоўнай тэмай у творчасці мастака. Што ён толькі ні маляваў — Вільню і Парыж, Пецярбург і Лондан, Амстэрдам і Неапаль, Варонеж і Чарнігаў, Мілан і Падую, Ноўгарад і Нежын, Маскву і Кіеў, Бругге і Царскае Сяло, Нью-Ёрк і Віцебск... Так, той самы патрыярхальна-правінцыйны Віцебск, апеты Шагалам і Юдовіным, Пэнам і Фалькам...

Стыль Дабужынскага меў сваю лінію і ён служыў ёй, нібыта бажаству. Яна была гібкай у малюнках, у кніжнай ілюстрацыі, у застаўках і літарах — вілася, нібыта лаза. Альбо сцялілася накшталт хлыста, закручваючыся на канцы дробнай дужкай. Ягоная лінія была гатовая абвіць усё на свеце, прарасці паўсюль, далікатна дакрануцца да пецярбургскага Ісакія, да мудрагелістых карнізаў віцебскіх драўляных дамкоў, акрэсліць на ўскраіне Лондана гарбатыя фермы моста над дарогаю, прапаўзці, нібыта змяя, паўз ціхія віленскія завулкі...

За дзесяцігоддзе да прыезду ў Віцебск мастак з'явіўся ў культуру Сярэбранага веку як рыцар, каб перамагчы монстра натуралізму і пабудаваць крыштальны палац свайго Сусвету. Дабужынскі хацеў усlавіць вялікае каханне і вялікі свет, адкінуўшы ўсялякія забароны і межы; ён сумаваў па адвечнай жаноцкасці і збіраў гукі з усіх клавіятур, а фарбы — з усіх палітраў быцця.

Але сучасны горад з ягонай рэзка аголенай прозай тэхнічнага прагрэсу не даваў яму спакою. І ён стварыў свой містыка-сімвалічны вобраз гэтай пачвары, якая падобная да турмы.

Перад самым прыездам у Віцебск, улетку 1918 года, тэма горада-д'ябла, дзе месцяцца нейкія невядомыя, варожыя чалавеку сілы, ужо знайшла сваё ўвасабленне ў ягонай серыі "Снабачанні".

Віцебск нібыта вылечыў Дабужынскага ад гэтай гарадской д'ябальшчыны, ад гэтага хаоса, аднастайнасці, паныласці. Ён знайшоў на берагах Заходняй Дзвіны адкрытую прастору, светлы подых космасу, спакой, правінцыйную ўтульнасць, некранутую прыроду, чыстае паветра, а галоўнае — душэўную раўнавагу. Яшчэ ішла вайна. А Дабужынскі як пацыфіст ненавідзеў і праклінаў яе, асабліва, калі сам прайшоў па вайсковых шляхах Польшчы і Галіцыі. І ад брыдкасці вайны, што не дайшла да Віцебска, ягоная душа "адпачывала"...

Так, гэты горад займае ў творчасці Дабужынскага сваё пэўнае месца. Магчыма, значна меншае, чым Вільна, Пецярбург, альбо, скажам, Лондан, але, прынамсі, цэлае пяцігоддзе жыцця (1918 — 1923) мастак "жыў" Віцебскам, пастаянна вяртаючыся да яго, хаця даўно ўжо там не жыў...

Дзіўна, што "віцебскі перыяд" Дабужынскага, хаця і зусім нядоўгі, у савецкім мастацтвазнаўстве практычна адсутнічае. Нібыта ён і не існаваў! Сапраўды, сам мастак у сваіх мемуарах не ўзгадваў Віцебск. Ну і што з таго? Фальк таксама не ўзгадваў "свой Віцебск". Для гэтага ў яго былі свае, глыбока асабістыя падставы. Але гэта не значыць, што гэты перыяд зусім не існаваў! А як быць з творамі гэтых майстроў, створанымі менавіта на віцебскім матэрыяле? А як быць з іхняй педагагічнай і грамадскай дзейнасцю ў горадзе на Дзвіне?

Пытанняў шмат. Мяркую, адказ можа быць адзіны: расійскім даследчыкам проста нявыгадна было "аддаваць" "сваіх" мастакоў на "водкуп" Беларусі. Бо і Шагал "віцебскага перыяду" лічыўся цалкам рускім мастаком, хай сабе — габрэйскім, які нібыта выпадкова, толькі "дзякуючы Луначарскаму", вярнуўся ў 1918 годзе да сябе на радзіму...



М.Дабужынскі. "Віцебск". Акварэль

В.Шматаў у сваёй кнізе "Беларуская графіка. 1917—1941" піша, што Дабужынскі ўпершыню наведаў Віцебск ў 1909 годзе, засноўваючыся на тым, што менавіта ў гэтым годзе ён нібыта напісаў сваю вядомую зімовую акварэль "Віцебск".

Віктар Фёдаравіч памыліўся. Гэты твор мастак напісаў у 1919 годзе, і раней у Віцебск ён ніколі не прыязджаў, пра што сведчыць поўны спіс усіх створаных ім работ, складзены даследчыкам творчасці Дабужынскага Г.Чугуновым у 1984 годзе.

... Радавод мастака мае змешаныя нацыянальныя карані. З боку маці, Лізаветы Цімафееўны, дачкі ноўгарадца Цімафея Сафійскага, ён быў рускі, многія продкі з боку маці служылі ў праваслаўнай царкве. З боку бацькі, паручніка лейбгвардыі коннай артылерыі Валерыяна Пятровіча Дабужынскага прасочваюцца сцяжынкі, што вядуць да Вялікага княства Літоўскага. Захаваўся цікавы дакумент — аўтабіяграфія дзеда мастака, Пятра Іосіфавіча, дзе адзначаецца: "Генеалагічнае дрэва нашае, хаця і небагатае на плады, пачынаецца з паганца, чыстакроўнага ліцвіна (пасучаснаму — беларуса. — Б.К.) Януша. Ён узведзены ў шляхецтва з мяшчанства каралём польскім з гербам "Правдзіне" ("Pravdzine")".

Бліжэйшыя продкі Дабужынскага ў Віленскай губерні на пачатку XIX стагоддзя валодалі маёнткам Дабужы, але ён з нeўдакладненых прычын быў страчаны, калі дзед мастака быў яшчэ малым. З тае пары Дабужынскія жылі толькі на сродкі, атрыманыя ад службы альбо працы.

Упершыню Мсціслаў Валерыянавіч трапіў на радзіму сваіх продкаў, на Беларусь, менавіта ў 1918 годзе, калі яму споўнілася 43 гады. За плячыма засталіся пецярбургская і віленская гімназіі, юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, шлюб з Лізаветай Восіпаўнай Валькенштэйн, нараджэнне сына і дачкі, педагагічная дзейнасць у прыватнай мастацкай школе Званцавай, праца ў антрэпрызе Дзягілева, вандроўкі па еўрапейскіх краінах, і — ніводнага дня без алоўка і пэндзля...

Перад прыездам у Віцебск ён стаў прафесарам тэатральнай майстэрні ў Цэнтральнай вучэльні тэхнічнага малявання Шцігліца. Г.Чугуноў у сваёй манаграфічнай кнізе "Мсціслаў Валерыянавіч Дабужынскі" піша: "Напрыканцы 1918 года згодна з даручэннем Аддзела выяўленчых мастацтваў пры Камісарыяце Паўночна-Заходніх абласцей Дабужынскі ўдзельнічаў у арганізацыі Віцебскага мастацка-практычнага інстытута, дзе адначасова кіраваў адной з майстэрняў і быў дырэктарам інстытута, а таксама сябрам Калегіі пададдзела выяўленчых мастацтваў Віцебска".

Аўтар манаграфіі, відавочна, не вельмі паглыбіўся ў сутнасць "віцебскіх метамарфоз": мастацка-практычны інстытут быў арганізаваны праз паўтара гады пасля ад'езду Дабужынскага з Віцебска. У дадзеным выпадку гаворка павінна ісці пра Віцебскую народную мастацкую школу, што не адно і тое.

Такім чынам, імя Дабужынскага побач з Віцебскам мы сустракаем 20 снежня 1918 года. Менавіта гэтым днём датуецца тэлеграма з Петраграда: "Зацверджаны калегіяй Дабужынскі дырэктар (народнай мастацкай школы. — Б.К.), кіраўнікі Радлаў, Цільберг, Шагал, Любавіна". А праз тыдзень газета "Известия Витебского губернского Совета" змясціла наступную "расшыфраваную" інфармацыю: "Аддзелам выяўленчых мастацтваў народнага камісарыята асветы прызначаны на пасаду дырэктара Віцебскай народнай мастацкай вучэльні М.В.Дабужынскі, кіраўнікі жывапісна-малявальных майстэрняў — Марк Шагал, Э.Радлаў, Н.Любавіна, скульптурнай майстэрні — Я.Цільберг. Заняткі ў вучэльні мяркуецца пачаць адразу пасля прыезду кіраўнікоў і ўтварэння мастацкага савета". Значыць, "кіраўнікі" яшчэ не прыехалі?

Аднак захаваўся пратакол пасяджэння журы конкурсу па распрацоўцы новых праектаў шыльдаў для горада і вёскі ад 6 снежня 1918 года. Сярод іншых педагогаў народнай мастацкай школы — сябраў журы, якія прысутнічалі на пасяджэнні, адзначаны і М.Дабужынскі! Атрымліваецца, што ў момант з'яўлення ў губернскай газеце ад 27 снежня 1918 года паведамлення аб прызначэнні Дабужынскага дырэктарам школы, мастак ужо жыў у Віцебску?! Але ж у іншых дакументах гэтага ж перыяду, у прыватнасці, у газеце "Витебский листок" ад 16 студзеня 1919 года, адзначаецца, што Дабужынскі разам з Пуні, Багуслаўскай, Любавінай прыехаў у Віцебск 13 студзеня і што "чакаецца прыезд Радлава, Аненкава, Гауша".

А яшчэ праз два тыдні афіцыйна адкрываецца Віцебская народная мастацкая школа (у дакументах яна называецца вучэльняй).

Аднак вядома, што школа практычна працавала ўжо ўвесну 1918 года на базе прыватнай малявальнай школы Юдэля Пэна і што першым яе дырэктарам з 14 верасня 1918 года быў Марк Шагал. Так ці інакш, будзем лічыць, што школа "ў другі раз" была адкрыта 28 студзеня 1919 года пры непасрэдным удзеле яе навaспечанага дырэктара Мсціслава Дабужынскага. А неўзабаве ён разам з М.Шагалам, А.Бразерам, Д.Якерсонам, Н.Коган, І.Пуні, К.Багуслаўскай, Н.Любавінай і паэтам М.Пустыннікам стаў сябрам калегіі пададдзела выяўленчых мастацтваў Віцебскага губернскага аддзела народнай асветы.

**Барыс КРЭПАК**

*(Заканчэнне будзе)*



М.Дабужынскі. "Чалавек у акулярах". Акварэль

# ЮРЫЙ ВАСІЛЕВІЧ ЛЫСЯТАЎ

**24 жніўня 1997 года пайшоў з жыцця вядомы беларускі кінадакументаліст, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Юрый Васілевіч Лысятаў.**



Нарадзіўся Ю.В.Лысятаў 1 лютага 1929 года ў горадзе Калуга. Пасля заканчэння ў 1949 г. сярэдняй школы ў Асіповічах амаль 5 гадоў служыў на Балтыйскім флоце, быў сакратаром рэдакцыі шматтыражнай газеты крэйсера "А.Сувораў". Потым працаваў супрацоўнікам абласной газеты "Молодой ленинец" у Калузе. З 1955 па 1961 год вучыўся на кіназнаўчым аддзяленні Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве.

На кінастудыі "Беларусьфільм" працаваў з лістапада 1961 года рэжысёрам дакументальных і навукова-папулярных фільмаў студыі "Летапіс". Практычна ўсё працоўнае жыццё, 36 гадоў, аддаў ён беларускаму дакументальнаму кіно.

За гэты час ім былі створаны дзесяткі дакументальных, навукова-папулярных фільмаў, кіначасопісаў. Характэрная рыса яго карцін — пранікнёная ўвага да чалавека, арганічнае спалучэнне лірычнага аповеду з яркім публіцыстычным абагульненнем. За цыкл поўнаметражных фільмаў "Мы з Беларусі", "Зямля мая — лёс мой", "Бацькоўскае поле", дзе ў цэнтры постаць працоўнага чалавека, рэжысёру Ю.В.Лысятаву ў 1982 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. Годам раней ён атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

Тэму беларускай вёскі, яе людзей і праблем, пачатую ў "Бацькоўскім полі", рэжысёр Лысятаў працягваў у поўнаметражных стужках "Круглы год", "Наказ", фільмах "У дні вясення", "Персанальны гектар", "Рудабелка, год 41-ы", "А ў полі вецер". Сумесна з вядомым этнамузыколагам З.Мажэйка Юрый Лысятаў зняў карціны "Палескія вяселлі", "Крывыя вечары". Апошняя іх работа "Куды адлятае песня" засталася недавершанай.

У цэнтры ўвагі рэжысёра Ю.В.Лысятава былі і выбітныя постаці беларускай культуры і гісторыі. Гэта і "Іван Мележ", і створаныя ў 90-я гады ў супрацоўніцтве з беларускім пісьменнікам А.Лісам фільмы "Зямля Тарашкевіча", "Дзядзька Уласаў", "Аркадзь Смоліч", "Адвечныя звоны", прысвечаныя Браніславу Тарашкевічу, Аляксандру Уласаву, Аркадзю Смолічу, Мітрафану Доўнар-Запольскаму. Апошняя работа рэжысёра Лысятава — дзве стужкі пра Пятра Міронавіча Машэрава.

Шмат якія фільмы Ю.В-.Лысятава адзначаліся на ўсесаюзных і міжнародных кінафестывалях, ён узнагароджаны медалём "За працоўную доблесць", дзвюма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Рэжысёр Ю.В.Лысятаў заўсёды жыў дакументальным кіно, яго хвалявалі поспехі калег. У свой час ён выбіраўся сакратаром Саюза кінематаграфістаў Беларусі, мастацкім кіраўніком студыі "Летапіс".

Памяць пра выдатнага беларускага кінадакументаліста Юрыя Васілевіча Лысятава, фільмы якога з'яўляюцца жывым летапісам жыцця рэспублікі апошніх трох дзесяцігоддзяў, назаўсёды застанецца ў сэрцах людзей беларускай культуры.

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

**Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм"**

**Беларускі Саюз кінематаграфістаў**

# БОГ або Д'ЯБАЛ?



Захварэла мая знаёмая. Яе клапатлівая сястра (між іншым, верніца) паставіла, як вядзецца, свечку ў царкве, потым пайшла... да варажбіткі. Наперадзе быў экстрасенс. Прайшло шмат часу, хворай лягчэй не стала. Ды яшчэ пасыпаліся на тую сям'ю дробязныя і вялікія непрыемнасці. З чаго гэта?

Ці задумваліся вы, колькі разоў на дзень прапануеце д'яблу... сяброўства? Ён, вядома ж, ад такога "падарунка" не адмовіцца. А вы, хутчэй за ўсё, да пэўнага часу і не здагадаецеся, што паклікалі ліха. І будзеце па-ранейшаму вывучаць гараскопы і магічныя кнігі, шукаць дапамогі ў варажбітоў і экстрасенсаў, глядзець па відэа "жудасцікі" і дасылаць да чорта добразычліўцаў з пухам і пяром. На жаль, вельмі няпроста бывае ўхапіць сувязь паміж гэтымі звыклымі рэчамі і шэрагам праблем, што ўзнікаюць неўзабаве ў жыцці. Але такая сувязь існуе. Пра гэта — наша чарговая гаворка са святаром **Генадзем Заблоцкім.**

**— Кожная больш-менш развітая краіна ў пераломныя моманты гісторыі перажывае не толькі эканамічны, але і духоўны крызіс. У апошняе дзесяцігоддзе і ў нас адбываецца нешта дзіўнае: разам з заўзятым богашукальніцтвам і прагай веры, як грыбы пасля дажджу, з'яўляюцца і мацнеюць розныя віды акультызму, псеўданавукі, псеўдарэлігіі. Калі ты не звяраеш кожны свой дзень з гараскопамі або не маеш камянёў-талісманаў, гэта амаль што маветон. Як да гэтай з'явы ставіцца Біблія? Што трэба ведаць нам, хрысціянам, каб памылковым учынкам не ўскладніць сабе жыццё?**

— Сітуацыя сапраўды склалася сур'ёзная. І найбольш небяспечная яна вось чым. Чалавек, які лічыць сябе хрысціянінам, стварае ў сваім розуме мешаніну з розных культаў, не ведаючы важных біблейскіх прынцыпаў. А калі пачынаюцца праблемы —вінаваціць у гэтым Бога.

Ад нараджэння свету ў ім існуюць дзве асноватворныя сілы: Бог, "аўтар" неба і зямлі, крыніца жыцця і любові, і Д'ябал, былы архангел Люцыфер, які запрацівіўся Богу і сам захацеў стаць гаспадаром усяго і ўся. Два гэтыя пачаткі знаходзяцца ў стане бесперапыннай барацьбы за людскія душы. Чалавек сам выбірае, каму падпарадкавацца. Трэцяга не дадзена. Біблія вучыць, што шлях у духоўны свет пралягае толькі праз Ісуса Хрыста, які адкрыў нам браму ў Неба і даў магчымасць свабодных зносінаў з Богам. Але многія людзі імкнуцца ўвайсці ў гэты загадкавы свет, мінуючы Творцу. Успомніце Евангелле: "Хто не дзвярыма ўваходзіць у кашару авечую, а пералазіць дзе-небудзь, той злодзей і грабежнік..."

Невыпадкова яшчэ ў Старым Запавеце, у Другазаконні, канкрэтызаваны "брыдоты", непрымальныя для Бога. Чалавек не павінен не толькі займацца імі, але нават прымаць у сябе тых, хто майстар на такія справы. "Не павінен знаходзіцца ў цябе той, хто праводзіць сына свайго ці дачку сваю праз агонь, прадракальнік, варажбіт,... чараўнік, той, хто выклікае духаў... і запытвае памерлых..." Або іншы ўрывак з кнігі прарока Ісаі: "І калі скажуць вам: "звярніцеся да тых, хто выклікае памерлых, і да чараўнікоў, да шаптуноў і чэраваяшчальнікаў, тады адказвайце: Ці не павінен народ звяртацца да свайго Бога? Ці пытаюцца мёртвых пра жывых?"

**— Аднак людзі не толькі захацелі, але і атрымалі здольнасці, каб прадракаць, варажыць і г.д. Як гэта адбылося?**

— У шостым раздзеле кнігі Быццё распавядаецца пра з'яўленне на свет незвычайных людзей. Іх бацькамі былі Сыны Божыя — анёлы, якія за непаслухмянасць разам з Люцыферам былі звергнутыя на зямлю. Яны бралі сабе жонак — дачок чалавечых. І ў выніку такіх "саюзаў" нараджаліся людзі са звышнатуральнымі здольнасцямі, з дапамогай якіх яны маглі ўрывацца ў духоўны свет, рабіць недаступныя для чалавечага розуму рэчы...

Потым быў патоп, і чалавецтва зноў пачало амаль з нуля. Але практыка зносінаў людзей са звергнутымі Сынамі Божымі і вынікі гэтага засталіся.

**— Тое ж, мусіць, можна сказаць пра паганскія традыцыі, якія існуюць у славянаў поруч з хрысціянскімі. Вопыт пакланення нашых продкаў розным бажаствам і звязаныя з ім рытуалы захаваліся да сённяшняга дня. Паўстае, аднак, пытанне: як размежаваць прыхільнасць паганству, што цягне за сабой парушэнне Божых запаведзяў, і жаданне захаваць культурную спадчыну продкаў?**

— Пачну з простай аналогіі. Калі вы нешта чулі і ведаеце пра наркотыкі, але не ўжываеце і не прадаяце іх, вас не назавеш ні наркаманам, ні злачынцам. Тое ж і ў нашым выпадку. Ведаць аб традыцыях продкаў — не значыць культываваць і папулярызаваць іх. Гісторыя, фальклярыстыка — навукі, і займацца імі, вядома ж, не грэх. Або возьмем, да прыкладу, астраномію. Відавочна: гэта зусім не адно і тое ж, што астралогія. Першая вывучае неба і свяцілы, другая спрабуе выкарыстаць іх насуперак жаданню Госпада. Бог жа стварыў планеты і зоркі не для таго, каб з іх дапамогай вызначыць лёс, а для аддзялення дня ад ночы, для адзнакаў гадзін, дзён, гадоў, і каб яны свяцілі на зямлю (Быццё, 1: 14 — 15). Больш за тое, адна з 10 запаведзяў Божых забараняе нам пакланяцца таму, "што на небе ўверсе, і што на зямлі ўнізе, і што ў вадзе ніжэй за зямлю". А ці ж гэта не пакланенне, калі чалавек будуе сваё штодзённае жыццё па гараскопах, падпарадкоўваючыся ім, а не волі Бога?

"Ніхто не можа служыць двум гаспадарам", — гаварыў Хрыстос. Калі вы сапраўдны хрысціянін, ці можаце нароўні з Богам шанаваць планеты, Ім створаныя, або духаў, або камяні?..

**— Большасць людзей, тым не менш, не ўсведамляюць, што гараскопамі, варажэннямі і падобнымі на тое захапленнямі грашаць супраць Бога. Іншыя, звяртаючыся да гэткіх "памочнікаў", проста забаўляюцца, быццам бы і не верачы ў іх.**

— На жаль, няведанне законаў не вызваляе ад адказнасці. Такімі "бяскрыўднымі" забаўкамі людзі наклікаюць фізічныя, духоўныя і фінансавыя праклцці не толькі на сябе, але і на сваю сям'ю, і на нашчадкаў. Дарэчы, наша гаворка тычыцца і іншых рэчаў, накшталт вельмі папулярных у народзе прыкмет, пакінутых нам у спадчыну паганцамі. Гэта звычкі стукаць па дрэве і пляваць праз плячо, каб не сурочыць, пасыпаць кватэру соллю і кідаць яе ў агонь... А ўсё гэта — не што іншае, як элементы чорнай магіі: такімі рытуаламі нашы продкі выклікалі духаў дэманаў.

Па колькасці прыхільнікаў у народзе з прыкметамі могуць спрачацца, відаць, толькі экстрасенсы і так званыя бабкі-лекаркі, якія альбо "энергіяй", альбо заклінаннямі і варажэннямі быццам бы лечаць ад усемагчымых хваробаў.

**— Многія пацыенты, аднак, сцвярджаюць, што маніпуляцыі гэтых лекараў сапраўды дапамагаюць. Ці яны не маюць рацыі?**

— Магчыма. Але трэба ўлічваць вось што. Па-першае, д'ябал надта ж хітры і валодае пэўнай сілай. Яму не трэба асаблівых намаганняў, каб стварыць уяўнасць дабрабыту ва ўсіх сферах жыцця. Па-другое, калі прасачыць далейшы лёс хворых, якія звярталіся па дапамогу, няцяжка заўважыць: эфемернае вылячэнне або цягнецца нядоўга, або выліваецца іншымі, часам яшчэ больш сур'ёзнымі праблемамі.

**— Ці не азначаюць вашыя словы, што, акрамя ўрачоў і святароў, ніхто не можа вылечваць цела і душу?**

— Зусім не. Безумоўна, ёсць людзі — я б назваў іх служыцелямі Божымі, — якія дапамагаюць іншым пазбавіцца ад хвароб, выконваючы волю Госпада. Гэта не абавязкова святары, але абавязкова тыя, хто шануе Слова Божае і валодае вялікай сілай звыш дзякуючы сваёй веры і паслухмянасці. Не заўсёды, аднак, проста вызначыць, такі ваш "збавіцель" або не. Але Евангелле дае падказку. Перадусім, чалавек, які атрымаў ад Бога цудоўныя здольнасці вылечвання, выгнання д'ябла і іншыя, ніколі не возьме за свае "паслугі" грошы: "Задарам атрымалі, задарам давайце" (Ев. ад Мацвея, 10:8). Акрамя таго, калі лекар не вызнае імя Ісуса, ягоная праца не ад Бога. Адна справа, калі над вамі вымаўляецца малітва ў Імя Госпада, і зусім іншая — калі гучаць нейкія неразборлівыя заклінанні над вадзіцай, попелам і г.д.

Кожны хрысціянін павінен дакладна ўсведамляць: не заклінанне пазбаўляе нас ад напасцяў, а Імя Ісуса Хрыста. Ён ужо калісьці разбурыў справы д'ябла. І Бог з таго часу ахоўвае і абараняе кожнага ад праклёнаў, сурокаў, хвароб. Але пры ўмове, што народжаны ад Бога сам "захоўвае сябе, нячысты не дакранаецца да яго".

**— Амаль усе мы з прычыны няведання або проста несур'ёзнасці мелі ў сваім жыцці кантакты з нячыстым. Што рабіць, калі гэта, нарэшце, усведамляеш?**

— Пакаяцца перад Богам і, вядома ж, не звяртацца больш да падобнай практыкі.

Тэма, якую мы закранулі сёння, неабсяжная. Калі яна вас зацікавіла або вам нешта незразумела, выклікае нязгоду —пішыце, паспрабуем разам вырашыць усе пытанні.

**Гутарку вяла**
**Магда ЖЫВІЦА**

***З пошты "К"***

# ЦІ ЁСЦЬ БУДУЧЫНЯ Ў МОЛАДЗІ, ЯКОЙ НЕ ПАТРЭБНЫЯ ПАЭТЫ ?

***"Да свабоды закліка,ны вы, браты, толькі б свабода (вашая) не была падставаю для дагаджэння плоці, але любоўю служыце адно аднаму".***
***(Да Галатаў, V, 13)***

Перад Богам, царквой жанчына — істота ніжэйшая. Сам Творца прынізіў гаманкую грэшніцу, не прымаючы яе ў разлік нават на старонках Біблii, калі размова ішла аб колькасці прысутных. Ва ўлонні царквы, як вядома, мела месца палеміка аб існаванні ў жанчыны душы. І па сённяшні дзень сярод некаторых канфесій жанчына не лічыцца вартай увагі. Аднак наведваюць храмы пераважна жанчыны. Ідуць самі, вядуць, валакуць на сабе дзяцей родных і хросных, пляменнікаў і ўнукаў, а то і праўнукаў — на добрыя справы найчасцей Гасподзь дае людзям сілу і памнажае гады. Як жа адрозніваюцца праблемы і клопаты жанчын-хрысціянак ад праблем і клопатаў іх свецкіх сясцёр! Слёзы іх — плач пра грахі, усмешка — радасць за добры духоўны стан блізкіх, клопат —служба Богу, праблемы — адносіны са светам, які ім іх і падкідвае, бо і па сённяшні дзень "няма прарока ў сваёй Айчыне". Як жа прагнуць яны самі, нашы жанчыны-хрысціянкі, душэўнай чысціні і як часта не знаходзяць паразумення і ў сям'і, і ў грамадстве! Які ўдушлівы для іх пах курыва і алкаголю, як млосна іх светлым душам чуць мацюганні, плёткі, пошлыя анекдоты, назіраць захапленне беззмястоўнымі фільмамі, тэлеперадачамі, адмаўляць у даверы тым, каму бязмежна давяралі, каго ўслаўлялі...

Урокі жыцця мы паўней спасцігаем на памылках, асабліва ўласных, асабліва, калі ўмеем аналізаваць іх. Духоўны бок нашых цяжкасцей і праблем для многіх яшчэ застаецца найчасцей незаўважаным: не кожнаму дадзена бачыць грэх свой, тым больш, перамагаючы ганарлівасць, пакаяцца, калі ўласнае сэрца чуйным камертонам адрэагавала на жорсткі ўласны ўчынак. Вяла, як дзіцятка пасля сну, адаптуюцца да святла, пераадольваюць духоўную цемру нашы суайчыннікі. І найпершы клопат — трывога пра моладзь. Дзякуй Богу, нямала прыстойных, набожных, і простых, і шляхетных сем'яў, дзе дзеці атрымліваюць належнае выхаванне. Дзякуй Богу, далі добрыя ўсходы і плады нядзельныя царкоўныя школы, якія сведчаць на карысць хутчэйшага (cito, як пазначаюць тэрміновасць медыкі) выкладання Закону Божага ў школах. Але ж нямала моладзі, роздум якой азмрочаны рознымі разбуральнымі для душы захапленнямі, групоўкамі. Дзяржаўны Маладзёжны тэатр, які ўзведзены на былых могілках (засланяючы сабою храм святой роўнаапостальнай Марыі Магдалены, якому сёлета спаўняецца 150 гадоў), дзіка ўражвае сваёй праграмай. Ці ёсць будучыня ў моладзі, якой не патрэбны паэты?

Як хораша было на душы, калі я прачытала ў любімых газетах заклікі-запрашэнні малітоўна і годна ўшанаваць разам у сталіцы памяць Янкі Купалы ў парку, які носіць яго імя, падчас агульнадзяржаўных святаў! Думалася, што вакол помніка народнаму песняру будзе суцэльны дыван жывых кветак. Як жа аказалася многа братоў па пяру, што ці то не палічылі патрэбным прызямліцца ў натоўпе, каб ад імя паэта "з цэлым народам гутарку весці", каб ягоная душа "не валялася ў балоце", ці то не змаглі выкраіць час, змагаючыся за сваё выжыванне фізічнае. Безумоўна, ёсць Вязынка, ёсць Ляўкі, музей, Дом літаратара, дзе штогод збіраецца наша літаратурная эліта, усюды не паспець... Самае ж галоўнае пытанне — з кім давялося б гутарку весці, хто прадстаўляў народ той? Роспачнай успрымалася заўсёдная высокая ўзнёсласць Антаніны Хатэнкі, гераічнымі — намаганні Леаніда Дранько-Майсюка ўтрымаць антураж — аўдыторыю, для якой рок-музыка аказалася даражэй за паэзію... Здавалася, што з вачэй манументальнага аблічча паэта ў гэты дзень, як ніколі, праступае затоеная горыч... Заставацца на канцэрце не было жадання не толькі ў мяне. То была пятніца, дзень смутку па распятаму Ісусу Хрысту, і дзень Пятровага посту па праваслаўным календары, посту, на які перанесена свята падоранай Богам нам незалежнасці...

... Песняй агучаны трапны выраз паэта "думкі мае, мае скакуны". Утаймаваць, уціхамірыць іх часам гэтак жа цяжка, як спыніць рысака на хаду.

Шостага ліпеня, у нядзелю, свята беларускіх святых, у святым месцы, у царкве ў гоанр іх, куды і я, убогая, прыйшла папрысутнічаць на ўшанаванні нашых Нябесных заступнікаў, ды (аднаму Богу вядома, чаму так здарылася) самлела, страціла прытомнасць, выпусціўшы з рук валідол. Здаўна лічыцца, што стану здароўя чалавека адпавядае стан яго грахоўнасці. Каюся, грэшная, завіс на мне грэх асуджэння, хоць усяго толькі ў думках мільганула тое благое, балючае...

Даруй, Госпадзі, і дапамажы нам усім разумець волю Тваю, любіць, шанаваць, берагчы, а не нішчыць усё жывое, тым больш — цэлы народ з яго мовай, культурай і гісторыяй.

**Сястра Ларыса**

# "САФІ ЛАРЭН НАБЫЛА ТРОХ СЕЗАНАЎ..."

Нядаўна ў італьянскай прэсе з'явілася паведамленне, што буйны прадпрымальнік Джані Аньелі набыў у адной галерэі адразу дванаццаць Рэнуараў і два Клімты. Сафі Ларэн набыла трох Сезанаў, Фрэнк Сінатра павёз з сабою дванаццаць Мадзільяні, а султан з Брунея для свайго фамільнага маёнтка набыў адразу семдзесят (!) палотнаў найвядомейшых еўрапейскіх майстроў.

Аднак мушу супакоіць чытача. Гутарка ідзе не пра арыгіналы Сезана, Рэнуара, Мадзільяні, не, усё набытае — фальшыўкі. Мала таго, гэта — "аўтарскія фальшыўкі". Так іх называе Джузэпе Сальцана, бізнесмен з Крэмоны, чалавек дзелавы і з вялікай фантазіяй.

Дзесяць гадоў таму сіньёр Сальцана, наслухаўшыся скандальных чутак пра падробку карцін вялікіх майстроў і рэпартажаў з залы суда пра працэсы супраць мастакоў, якія займаліся гэтай кепскай справай, вырашыў, што гэты, вельмі прыбытковы бізнес можна ладзіць зусім спакойна, не парушаючы законаў.

Некалькі гадоў ён займаўся тым, што "выяўляў" ва ўсіх краінах Еўропы самых здольных спецыялістаў па фабрыкацыі фальшывых карцін і пераконваў іх далучыцца да ягонага плана. А план гэты быў просты, як і ўсё геніяльнае. Сальцана адчыніў у сябе мастацкі салон пад назвай "Музей фантазіі". Тут ён вырашыў экспанаваць і прадаваць творы мастакоў, якія на яго працавалі. Тры гады таму ў ягонай групе налічвалася трыццаць восем "сумленных вытворцаў фальшывага мастацтва", як пісала заходняя прэса.

Джузэпе Сальцана: "Кожны з маіх мастакоў спецыялізуецца на нейкім аўтары, пра якога ён ведае абсалютна ўсё: тэхніку пісьма, усе вялікія і малыя прафесійныя сакрэты, пачынаючы з таго, як той рабіў фарбы, якімі пэндзлямі працаваў".

Так, Сальцана ўмеў падаваць свае "шэдэўры"! Калі чарговы твор сапраўды ювелірнага мастацтва высакаякасных падробак трапляў на выставу-продаж "Музея фантазіі", дык нават самы прыдзірлівы спецыяліст адзначаў не толькі выдатную якасць і таленавітае выкананне сюжэта, манеры пісьма, колеравай гамы "першапачатковага" аўтара — строгі позірк прафесіянала знаходзіў і ўсе адметныя рысы часу, якімі быў адзначаны арыгінал, усе без выключэння кракелюры — шчылінкі і іншыя магчымыя дэфекты, а таксама сляды рэстаўрацыі, калі тая калі-небудзь праводзілася.

Цікава, што мастакі з майстэрні Сальцана ў сваёй працы выкарыстоўваюць выключна старыя палотны, здабываючы іх дзе толькі магчыма, іншы раз здымаючы са старых "некаштоўных" карцін слой фарбы.

Джорджа Пілон, прадпрымальнік таго ж "Музея фантазіі": "Мастакі, якія працуюць у нашай майстэрні, цудоўна разумеюць, што, ствараючы палатно, да прыкладу, XVII стагоддзя, не могуць выкарыстоўваць цынкавыя бялілы — у той час іх яшчэ не ведалі".

Дарэчы, пра Джорджа Пілона. Гэта таксама вельмі важная асоба ў гэтым мерапрыемстве. Ён — судовы эксперт, знаўца жывапісу. Працуе ў рымскім апеляцыйным судзе. Менавіта да яго звяртаюцца па дапамогу ў выпадку патрэбы высветліць сапраўднасць таго альбо іншага палатна. Потым ён стаў кансультантам Сальцана. І калі ўжо ён паставіць свой аўтограф пад пасведчаннем пра тое, што дадзеная карціна — "аўтарская фальшыўка", — гэтаму можна верыць!

Паводле меркавання Джорджа Пілона, адна з істотных вартасцяў "аўтарскіх фальшывак" — гэта першакласныя рамы. Таму ў "Музеі фантазіі" творы прадаюцца ў рамах, зробленых уручную лепшымі майстрамі-рамеснікамі Еўропы: галандцы і бельгійцы робяць рамы для галандскіх мастакоў, французы — для імпрэсіяністаў, італьянцы — для жывапісцаў Адраджэння.

І ў выніку — цудоўныя палотны, якія, як лічыць Джузэпе Сальцана, могуць упрыгожыць кожную калекцыю. Наогул, каштуе гэта не так і дорага. У каталогу стаяць наступныя кошты: Ласла Раваш "Нацюрморт" Поля Сезана — 245 долараў, Антоніо Мацей "Дама з парасонам" Клода Манэ — 280, Серджа Угі "У тэатральнай ложы" Агюста Рэнуара — 325, Рабер Пастор "Вясковае свята" Пітэра Брэйгеля — 1000. Кошты значна ніжэйшыя за тыя, якія фігуравалі на выставе фальшывак, што прайшла ў 1993 годзе ў Парыжы і на якой за кожную з кепска зробленых падробак пад імпрэсіяністаў патрабавалі да дзвюх тысяч долараў.

Джузэпе Сальцана: "Гэта былі палотны вядомага ва ўсім свеце "вытворцы" падробных шэдэўраў Эміля Дэ Горн, чалавека легендарнай славы, які здолеў задаволіць заходні рынак — і самыя розныя мастацкія галерэі — фальшывымі творамі пад Міро, Шагала, Пікаса. Жывапісцам ён быў так сабе, затое ўмеў бліскуча падрабляць подпісы вялікіх. Калі мне трапляюцца творы Эміля Дэ Горн альбо калі я чую аповеды пра яго, у мяне ўзнікае думка пра тое, што надыдзе час і мае мастакі будуць вядомымі ва ўсім свеце і высокааплочваемымі. У мяне ёсць мэта: дапамагчы ім выйсці са стану невядомасці, амаль падполля, зрабіць так, каб перад імі адчыніліся дзверы легальнага рынку, каб палотны з іх подпісамі экспанаваліся ў самых вядомых калекцыях".



У жыцці "Музея фантазіі" здараліся і свае кур'ёзы. Быў у Сальцана адзін хітры супрацоўнік, які здолеў прадаць вядомай Імельдзе Маркас дзесяць карцін імпрэсіяністаў, выдаўшы іх за арыгіналы. Калі муж і жонка Маркасы вырашылі бегчы з Філіпінаў у ЗША, арыстакратка звярнулася да мастака з сакрэтнай, натуральна, просьбой зрабіць "копіі" са сваіх карцін. Арыгіналы яна, маўляў, патаемна павязе з сабою, а копіі пад выглядам арыгіналаў пакіне падманутаму філіпінскаму народу. Аднак аўтар "арыгіналаў" катэгарычна адмовіўся зрабіць фальшыўку на фальшыўку. Сумленны быў чалавек!

**Пра "Музей фантазіі" плёткі збіраў Глеб МАНЮК**

# ЗОРКІ — ЗОРКАМ: астралагічны прагноз для творчых людзей на перыяд з 1 па 7 верасня.

*На працягу гэтага тыдня многім з нас спатрэбіцца захаваць халодную галаву і прагматычны, цалкам дзелавы падыход да падзей. 2 верасня — маладзік, які абвесціць пачатак чарговага чатырохтыднёвага цыкла жыццёвага развіцця. Нягледзячы на тое, што традыцыйна маладзік лічыцца часам фармавання і пачатку новых жыццёвых праграм, праектаў і задум, надыходзячы цыкл наўрад ці з'явіцца спрыяльным для пачынанняў.*

## Авены

Надыходзячы перыяд жыццёвай актыўнасці паставіць перад вамі праблемы падвышэння ўзроўню майстэрства і правільнага выкарыстання жыццёвых сіл. У сярэдзіне гэтага тыдня з прычыны асабістых амбіцый вы можаце не звярнуць увагі на ўсталяваныя правілы пры адстойванні ўласных інтарэсаў, што пагражае сур'ёзнымі непаразуменнямі і спрэчкамі.

## Цяльцы

Для вас надыходзячы цыкл жыццёвай актыўнасці будзе звязаны з уменнем рызыкаваць, прыгодамі, рамантыкай і азартам. У сярэдзіне тыдня давядзецца знайсці кампраміс паміж жаданнем застацца ў "ценю" і неабходнасцю захаваць добрыя, хай сабе і фармальныя стасункі з братамі па творчасці. Напрыканцы тыдня спробы "цісnуць" на ўсіх сваёй папулярнасцю і заслугамі могуць стаць прычынай гучных скандалаў і высвятленняў. Будзьце ў гэты час гранічна сціплымі.

## Блізняты

Вам у надыходзячым перыядзе жыццёвага развіцця давядзецца надаць увагу гісторыі, традыцыі і караням вашага накірунку творчай дзейнасці. У сярэдзіне гэтага тыдня імкненне абавязкова апынуцца ў цэнтры ўвагі можа быць няправільна зразумета вашымі калегамі, верагодней за ўсё, вас палічаць безадказным чалавекам, і вы часова пазбавіцеся іхняй падтрымкі. Напрыканцы тыдня жаданне ўсё выканаць падкрэслена ідэальна пагражае знясіленнем і як следства — млявасцю.

## Ракі

Праблемы стасункаў, перагляду існуючых сувязяў, навучання і працы з інфармацыяй паставіць перад вамі надыходзячы цыкл жыццёвага развіцця. А ў сярэдзіне гэтага тыдня моцная прыхільнасць да ўласных заслуг, залішняя сур'ёзнасць і закрытасць здольныя адарваць вас ад каранёў і пазбавіць магчымасці абапірацца на традыцыю, што для вас істотна. Напрыканцы тыдня боязь сур'ёзных зменаў не дазволіць выказаць сябе цалкам. Не палохайцеся куражу, проста трэба своечасова выйсці з гульні.

## Ільвы

Тэма матэрыяльных даброт: як іх знайсці, не здраджваючы творчаму шляху і як абысціся з імі, паўстане перад вамі ў чарговым цыкле развіцця жыцця. У сярэдзіне гэтага тыдня вашыя прамовы могуць быць многімі незразуметы з прычыны залішняга красамоўства. Не забывайцеся, што ў гэты час для вас найбольш важнай павінна стаць сутнасць вашых выказванняў, а не бліскучы стыль і далікатнасць мовы.

## Панны

Чарговы цыкл жыццёвага развіцця прыцягне вашу ўвагу да ўласнага стылю творчага самавыказвання і клопату пра добрае самаадчуванне. У сярэдзіне тыдня занадта пільная ўвага да выніку чужых пошукаў і даследаванняў пагражае няўдачамі ва ўласных справах.

## Шалі

Тэма самоты і адарванасці ад вонкавага тлуму стане актуальнай для вас у надыходзячым перыядзе жыццёвага развіцця. На працягу гэтага тыдня вам давядзецца пакапацца ва ўласных глыбінях, а на сярэдзіне яго спробы яскрава выказвацца могуць стаць перашкодай для здаровага пачуцця адказнасці ў пошуку балансу інтарэсаў. Імкніцеся спалучыць гэтыя цудоўныя якасці і вы здолееце стаць выдатным суддзёй.

## Скарпіёны

Доўгатэрміновыя творчыя планы, праекты, задумы і стасункі з аднадумцамі зоймуць большую частку вашай увагі ў надыходзячым цыкле развіцця жыцця. Імкніцеся не перанапружыцца ў даследаваннях і спробах дасягнуць вяршынь майстэрства ў сярэдзіне гэтага тыдня. Наступствы могуць быць не на карысць добраму самаадчуванню.

## Стральцы

"О доблести, о подвигах, о славе..." — трэба будзе паклапаціцца вам у надыходзячым цыкле жыццёвай актыўнасці. У сярэдзіне гэтага тыдня вашая шматслоўнасць і магчымая неразборлівасць у сувязях будуць нагодай для раз'юшанасці нядобразычліўцаў, што можа праявіцца ў выглядзе ананімных, але ад таго не менш балючых паскудстваў.

## Казярогі

Надыходзячы перыяд жыцця паставіць перад вамі праблемы філасофскага асэнсавання жыцця, перагляду ідэалаў і пашырэння кругагляду. Занадта моцнае імкненне да папулярнасці і жаданне пахваліцца сваімі дасягненнямі могуць стаць сур'ёзнай перашкодай для разумення традыцыйных, на першы погляд, рэчаў і адэкватнага абыходжання з прадметамі старажытнасці ў сярэдзіне тыдня. Напрыканцы тыдня спробы ацаніць уласную дзейнасць выключна з матэрыяльнага боку пагражаюць крушэннем доўгатэрміновых задум і планаў.

## Вадалеі

Асноўнай задачай у надыходзячым жыццёвым цыкле стане неабходнасць утрымацца на ветры перамен, які стане прычынай сур'ёзных трансфармацый у самых розных галінах вашай творчасці. Ужо ў сярэдзіне гэтага тыдня засяроджанасць на сваім пункце погляду можа перашкодзіць плённа папрацаваць над састарэлымі перакананнямі і пашырыць кругагляд. Напрыканцы тыдня занадта пільная ўвага да фальшывага і вонкавага пагражае ўчынкамі, што сапсуюць ваш прэстыж і папулярнасць.

## Рыбы

Вам у надыходзячым перыядзе жыццёвай актыўнасці давядзецца навучыцца адстойваць уласныя погляды на творчы пошук. У сярэдзіне гэтага тыдня давядзецца шукаць баланс паміж жаданнем нешта змяніць для дасягнення большай гармоніі і неабходнасцю зберагчы матэрыяльныя сродкі. Напрыканцы тыдня беспадстаўна моцнае паглыбленне ў сябе можа стаць перашкодай для падарожжа і перагляду некаторых састарэлых жыццёвых поглядаў.

**Аляксей КАРПІНСКІ**

К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 28.08.97. у 15.30.

Замова 5005

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**